
Папа Францішак у Літве ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Анхела Эспіноса ➔ 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 39 (3255) Год LXIII

Беласток, 30 верасня 2018 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Студыя фальклору падляшскіх беларусаў «Жэмэрва» ўрачыста адзначыла 15-гадовы юбілей. Справа стаіць мастацкі кіраўнік Анна Фіёнік

# 15 гадоў Студыі фальклору «Жэмэрва»

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

Студыя фальклору падляшскіх беларусаў «Жэмэрва» была заснавана восенню 2003 года і 15 верасня гэтага года ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах урачыста адзначыла свой 15-гадовы юбілей. Публіка, сабраная ў музейнай клуні і вакол яе, слухала песень і глядзела народныя танцы ў выкананні «Жэмэрвы» і калектываў з Рэспублікі Беларусь — «Церабяначак» з вёскі Церабень і «Гаманіны» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі ў Мінску. Жывапісцы з Беларусі раней прыехалі на пленэр у Раманаўку, у якой Студзіводскі музей 16 верасня наладзіў святкаванні. Прынялі яны таксама ўдзел у семінары «Студзіводы Сегяневічаў», які адбыўся 15 верасня перад святкаваннем юбілею «Жэмэрвы» ў мяшчанскай хаце Музея малой айчыны ў Студзіводах. Зачытаныя на семінары даклады тычыліся гісторыі нашых малых айчын і лёсаў выхадцаў з іх. У мяшчанскім доме прэзэнтаваліся таксама пленэрныя карціны, намаляваныя ў Раманаўцы. Усе названыя мерапрыемствы Аб'яднанне Музей малой айчыны ў Студзіводах падзяліла ў рамках Еўрапейскіх дзён спадчыны.

— Мы ў 2003 годзе ў Студзіводскім музеі спаткаліся на летніку для дзетак і моладзі, прысвечаным нашым традыцыям, і там пачалі спяваць нашы песні. Наш калектыў заснаваны быў восенню 2003 года і яго членамі сталі ўдзельнікі летніка. Тады мы раздумвалі, як назваць калектыў. Я ў «Слоўніку мовы вёскі Храбалы» Міколы Врублеўскага знайшла слова «жэмэрва», што тлумачылася як кампанія вясёлай моладзі. Гэтае слова нам падыходзіла і мы калектыў назвалі «Жэмэрвой». Пазней я пачала працаваць у бельскай «тройцы» і там з сяброўкай заснавала калектыў «Жэўжыкі», якім апякуюся па сённяшні дзень. Члены гэтага калектыву папаўняюць састаў «Жэмэрвы». Мы дзейнічаем ужо 15 гадоў і за гэты час у пяці саставах калектыву спявала каля 50 чалавек. Сёння я цешуся, што прыбылі да нас асобы, якія раней спявалі ў «Жэмэрве», — яшчэ да пачатку мерапрыемства сказала Анна Фіёнік, мастацкі і арганізацыйны кіраўнік «Жэмэрвы» з моманту яе заснавання.

— Я спявала ў «Жэмэрве» з самага пачатку на працягу дзесяці гадоў. Рэпетыцыі, выступы на месцы і шматлікія выезды засталіся ў маёй памяці. Спяванне ў «Жэмэрве» стала маім стылем жыцця, у якім вельмі важнай была памяць аб мінулым, гісторыі і традыцыях. Мы сабралі многа песень, якімі папоўнілі свой рэпэртуар, развучвалі старадаўнія танцы. Мой род з Пашкоўшчыны. Ад маёй сваячкі з Малінік, Надзеі Сахарчук, мы запісалі многа фальклорных песень і гэта абавязвала мяне захоўваць іх ад забыцця. Фальклорныя песні я люблю спяваць таксама цяпер. Маю намер навучыць гэтых песень таксама маіх дзетак, — сказала Паўліна Майстровіч (у дзявоцтве Глінка), якая прыехала на юбілей «Жэмэрвы» разам са сваім сынам (той з цікаўнасцю слухаў спеву выступоўцаў).

Павіншаваць юбіляраў прыйшлі таксама былыя члены «Жэмэрвы», для якіх час запісвання і спявання даўніх песень застаўся незабыўным перыядам у іх жыцці. Калі яны спатыкаюцца, яшчэ і цяпер спяваюць неапрацаваныя даўнія песні. Наймалодшай удзельніцай «Жэмэрвы» на сцэне была Таіса, дачка Дарафея Фіёніка.


«Церабяначкі» з вёскі Церабень (стаяць злева) спявалі з «Жэмэрвой»

— Мы любім спяваць свае даўнія традыцыйныя песні. Зацікаўленасць імі прыйшла ўжо ў «Жэмэрве», дзе мы палюбілі наш родны, беларускі фальклор, — сказалі бельскія белліцэісткі, члены «Жэмэрвы».

— Я «Жэмэрву» ўбачыў на Тройцу 2016 года і яна мяне захапіла. З гэтага часу ахвотна прыязджаю сюды з Вілінава на рэпетыцыі і выступы нашага калектыву. Стаў я яшчэ мацней любіць нашу гісторыю, традыцыі і беларускую культуру і не ўяўляю праводзіць вольны час без «Жэмэрвы», — заявіў Данілка Саўчук.

— У рэпертуары нашага калектыву «Жэмэрва» ад пачатку дзейнасці было многа абрадавых песень — калядных, вясенніх, летніх, вясельных і іншых. З нашымі абрадамі мы амаль ад пачатку дзейнасці знаёміліся ў час сустрэч «Там по маёвуй росі», якія праходзяць з нашым удзелам. Мы спявалі абрадавыя песні, вадзілі карагоды, знаёмілі публіку з нашымі абрадамі, якім спачатку самі вучыліся. Пазней мы сталі спяваць пазаабрадавыя песні, якія выконваліся ў час вечарынак і іншых сустрэч, — гаварыла Анна Фіёнік.

У час музычнага спаткання перад сабранымі выступіла капэла «Жэмэрвы», з яе заснавальнікам Дарафеем Фіёнікам, які іграе на акардэоне, і ўдала прэзэнтавала даўнюю інструментальную музыку. Анна Фіёнік са сцэны вяла гутарку з публікай і распавяла, што капэла «Жэмэрвы» стварылася з дапамогай вядомага ў Польшчы народнага скрыпача з Познані Мацея Філіпчука, які ахвотна наладзіў супрацу са студзіводскім калектывам. У капэле сталі іграць тры скрыпачкі — Ніка Юрчук, Уля Алексяк і Віёля Боцюк, а бубначом ёсць Ілья, сын Дарафея Фіёніка. Другі яго сын, Максім, таксама часта выступау у Студзіводскай студыі фальклору «Жэмэрва». Капэла зайграла ў Студзіводах музычныя творы, пад якія ў мінулым танцавала моладзь, а цяпер затанцавалі члены «Жэмэрвы» і асобы з публікі.

— Я спяваю і іграю на скрыпцы ў «Жэмэрве» шэсць гадоў і рада супольным выездам і выкананню народнага рэпертуару. Я вучылася іграць на скрыпцы ў Музычнай школе першай ступені ў Бельску-Падляшскім, але многаму навучылася таксама іграючы ў «Жэмэрве», дзе ўдасканальваю свой музычны варштат, — сказала Ніка Юрчук.

Студыя фальклору «Жэмэрва» спявала займальна, а публіка што і раз узнагароджвала выступоўцаў гарачымі апладысментамі. Яе захапілі таксама калектывы з Рэспублікі Беларусь — «Церабяначкі» з вёскі Церабень, з якімі супольна спявала таксама «Жэмэрва», і «Гаманіна» Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі ў Мінску. Аб'яднанне Музей малой айчыны ў Студзіводах нядаўна выдала чарговы кампакт-дыск «Год у Пінскім павеце», падрыхтаваны Студыяй фальклору падляшскіх беларусаў «Жэмэрва». Дыск Студзіводскага музея далучаны да 57 нумара «Бельскага гостінця».

— У «Жэмэрве» зараз выступае многа нашых белліцэістаў, якія

працяг ☞ 10





# Прычыны і наступствы

Беларусь многія лічаць выпрабавальным палігонам Расіі. Маўляў, многія рэчы напачатку Масква выпрабоўвае на беларускім грамадстве, а пасля, калі эксперымент праходзіць так, як трэба, яго ставяць там, у Расіі. Калі ж штосьці пайшло не так, то ўносяць пэўныя карэктывы і адпраўляюць у Беларусь на перараздачу. Калі і другі раз не праходзіць, зноў дапрацоўваюць, але ў сябе эксперыментаваць не рызыкуюць. Вось, прыкладам, як гэта было з дэкрэтам пра дармаедства. Гучала гэтая тэма і ў расійскай Думе даволі востра, але пасля беларускіх пратэстаў пра яе як бы і забыліся зусім, і ніхто не памятае хто яе там падымаў.

Таму вельмі здзіўляе, што пенсійную рэформу Крэмль не малпуе з разважлівага беларускага досведу, а таранам прасоўвае як мага хутчэй, не зважаючы на масавыя пратэсты сваіх грамадзян і яе татальную непапулярнасць. Кіраўнік Расійскай Федэрацыі гатовы сваім рэйтынгам ахвяраваць, абы яна хутчэй была зацверджана. А зводзіцца тая рэформа ў асноўным да банальнага павелічэння пенсійнага ўзросту грамадзян і толькі.

У Беларусі зараз многія непапулярныя меры ўкараняюць хоць дробнымі дозамі ды часта. Малымі порцыямі, як да атруты, прывучаюць грамадства. Вось паліва даражэе хоць і часта, але толькі на адну капейку. І ўжо пра тыя паліўныя пратэсты, якія былі раней, грамадства даўно забылася. Ну хто будзе бунтаваць з-за адной капейкі. А што іх накапае ў хуткім часе на круглую суму, дык гэта і не заўважна. І з павышэннем пенсійнага ўзросту ўсё на крысе. І па троху можна назбіраць неабходную лічбу. Чаму б Крамлю гэты досвед не пераняць? Чаго яны фарсіруюць падзеі?! Ну павінны ж быць нейкія прычыны!

А чаго яны толькі не робяць, каб гэтая так званая рэформа адбылася адразу і як мага хутчэй. На прапаганду яе мэтазгоднасці хіба больш патрацілі грошай, чым яна можа зэканоміць бюджэтных сродкаў. Напэўна таму, што галоўны аргумент грамадства хавае як грачнёвую кашу з маслам. Хоць калі падумаць, гэты аргумент і выедзенага яйка не варты. Бо ён сцвярджае, што пенсіянераў стала больш, чым працаўнікоў. Але ж чалавецтва для гэтага і рабіла тэхнагенную рэвалюцыю, каб замест чалавека машыны працавалі, а нават робаты. І калі раней, каб апрацаваць дзесяць гектараў зямлі, сто чалавек цягалі за вяроўкі дзесяць сох і галадалі, то пазней ужо дзесяць коней цягалі дзесяць плугоў, і ўсяго дзесяць чалавек ішлі за тымі плугамі. І ўжо ўсе сто чалавек не галадалі. А пасля гэтае поле апрацоўваў адзін трактар з адным трактарыстам. Яшчэ ў часы майго дзяцінства амаль да кожнай каровы трэба была даярка. Зараз з фермай у некалькі тысяч галоў упраўляюцца некалькі чалавек і самі тых кароў нават за вымя не цягаюць, а толькі на гузікі цiскаюць. Чалавека замяняе машына. І не трэба да кожнага пенсіянера прыстаўляць працоўнага.

Тэхнічны прагрэс для таго і задумваўся, каб жыццёвы ўзрост усё падымаўся, а пенсійны ўзрост апускаўся. У адваротным выпадку ён не мае аніякай вартасці. І чалавек ужо ў наш час мусіць адпрацаваць не больш паловы ад сваіх бацькоў, каб дасягнуць таго ж матэрыяльнага выніку, што і мінулае пакаленне. А далей хай займаецца чалавек творчасцю, падарожжамі, грамадскімі справамі, чым захоча. А пазней і гэтага часу не спатрэбіцца. Тэхналагічная рэвалюцыя ж не стаіць на месцы. І работнікаў у тым выглядзе, як мы прызвычаіліся, у адну чалавечую сілу, патрэбна будзе ўсё менш і менш.

Але калі для працы людзей патрэбна ўсё менш, то для вайны яны па-ранейшаму патрэбныя ў неабмежаванай колькасці. Бо на вайне людзі гінуць. І калі маладых забіраць на вайну, то старым хочаш не хочаш а трэба вяртацца на працу. Бо хоць на той ферме і не шмат работнікаў патрэбна на гузікі цiскаць, але яны ўсё ж патрэбныя. Робаты яшчэ не ўсё вырашаюць ні ў мірнай рабоце, ні калі з кім вайну пачынаць. А шкада.

Зрэшты, чаго зразу пра вайну думаць. Прычыны павышэння пенсійнага ўзросту могуць быць значна больш празаічныя. Маладыя з усёй паслясавецкай прасторы ўцякаюць хто куды шэрагамі і калонамі. Могуць чаго добрага і ўсе паўцякаць. Яны на Захадзе могуць спатрэбіцца. А вось іхная цяперашняя ўлада не. Ні ў якім варыянце. Вось і думае тая ўлада пра наступствы свайго кіравання. І без павелічэння пенсійнага ўзросту не абыдзецца.

Віктар САЗОНАЎ

# Закавычка

Выпадкова, ідучы ў кампаніі маіх сабачак вясковай вуліцай у бок прынарваўскіх сельска-ідылічных пейзажаў, я сустрэў даўно нябачанага сябра. Як жа гэта здарылася, што жывучы па-суседску, мы амаль не бачым адзін аднаго? Не чуем, не размаўляем адзін з адным... Нейкія птушкі спрачаліся ў кронах векавых дрэў. Дарэчы, толькі або ажно ў трох кронах двухсотгадовых ліп і ясеняў — таму што іншыя, якія шэрагам стаялі ўздоўж вуліцы, былі радасна ссечаны. Большая частка з іх падчас электрыфікацыі вёскі, яшчэ ў трэцяй чвэрці XX стагоддзя. Іх недабітую рэштку — паступова, не думаючы, абсалютна — таму што засланялі вокны хат, таму што трэба было гартаць апалае лісце, таму што вецер можа зваліць іх на жыллё... Ці па любых іншых рацыянальных, мне невядомых прычынах. Часцей, аднак, ірацыянальных.

Але вярнуся да першага матыву. На драўляным плоце, недалёка ад нас, павіс наш сусед, так як кожны дзень у любым выпадку, цікавячыся аб свеце і людзях, перакінуўшы рукі цераз плот. У кожнай вёсцы можна ўбачыць такога «вісельніка». Я такі «навіс» зваў бы «падляшскай закавычкай». «Вось мая спадчына, — здаецца, паведамляў наш сусед. — За спінай у мяне аброслая за пакаленні халупа, а перад сабою — увесь свет!». Кіўнулі мы галовамі адзін да аднаго. Нядбайна, каб не сказаць абыякава. Але мае сабачкі падбеглі да яго, віляючы прыязна хвастамі. «Да буды!» — толькі раўнуў ён на іх і застаўся, сам як штыкеціна ў гнілым плоце — абмшэлы неахвотай, перакрыўлены і непарушны... Пасля кароткага прывітання і мы... павіслі разам. Змаўчалі, як гэта бывае, калі выпадковая сустрэча патрабуе дружалюбнага працягу, але жыццё чакаючае свайго працягу — няўхільнага развітання. І мы завагаліся. Што рабіць? Неадкладна разысціся, кожны ў сваім кірунку, ці пагаварыць хвіліну. Абодва павінны былі хутка вырашыць сур'ёзную праблему — як рухацца па сваіх справах, але зважаючы на тонкія правілы ветлівасці. Гэта так, як прайсці па някранутым лузе, залітым сонцам і жаўруковымі спевамі, не кранаючы яго нагамі. І якраз у той момант вагання, мне здавалася, што калега звярнуўся да мяне з сумневам, ці дзірка ў абаранку вызначае яго змест ці форму? Пытанне ў яго вуснах прагучала абсурдна. Нягледзячы на свае шматлікія добрыя рысы, не выяўляе ён тэндэнцыі да абстрактных меркаванняў. Мае вочы, пэўна, былі асабліва здзіўлены, таму што калега нейк сорамна і хутка развітаўся са мной. Толькі праз некаторы час я зразумеў, што падчас нашага снапшоту не прамовіў ён ніводнага слова, апроч кароткага прывітання і яшчэ больш кароткага развітання. А тое абстрактнае пытанне прагучала ў маёй галаве некалькі дзён раней, і толькі ў той момант выпадковай сустрэчы выплыла з маёй свядомасці выразна і рэалістычна. У сне задаў яго мне незнаёмы ягамосць, на якога я наткнуўся ў такіх жа ўмовах: на сельскай вуліцы рассвіргатанай спрэчкамі птушак. Тады таксама той сусед вісеў на плоце, і мае сабачкі радасна пабеглі да яго. Але ў сне не гыркнуў ён ім «Да буды!», але прыязна працягнуў ім руку. Як быццам плот быў для яго толькі сімвалічнай мяжой і настолькі мяжой, наколькі станавіла яна ўсеагульнае прызнанне і павагу да чалавечай інтымнасці, а не прымусова ўстаноўлены як мяжа варожасці калючы дрот. Сустрэты чалавек усміхнуўся, гледзячы на гэтую карціну, а затым, павярнуўшыся да мяне з трывогай у голасе, паставіў мне гэтае фундаментальнае: ці дзірка ў абаранку вызначае яго змест ці форму?

Мне было цікава, што адказаў бы на яго мой калега, адыходзячы ад мяне спешным крокам. Што б не адказаў, я не пачуў бы сказанага. Ён быў ужо задалёка. Праз некаторы час знік з майго поля зроку. Застаўся ад яго толькі след, нерэальная, як быццам са сну сатканая смуга яго крокаў. Я азірнуўся на пустой вуліцы. Сусед усё яшчэ вісеў на сваім плоце. Птушкі далей спрачаліся ў кронах старых цудам ацалеўшых трох старых дрэў. Я паклікаў сваіх сабачак і мы пайшлі дахаты. Несумненна, і мы пакінулі за сабой смугу ад нашых крокаў у някранутым, бездакорным лузе. Тады я ўспомніў вядомую дылему віны, пастаўленую нямецкім філосафам Карлам Ясперсам. Асабліва дакраналася яна праблем пасляваенных немцаў — наколькі кожны з іх нёс віну за злачынствы нацыстаў. У цэлым, аднак, гэтае пытанне перанёс ён на ўсе паводзіны чалавека. І тое пытанне ахапіў у банальным пытанні, «ці вінаваты толькі той, хто першы, нягледзячы на забарону таптання дагледжанага лужка, праходзіць праз яго, скарачаючы свой шлях, ці хтосьці іншы, хто будзе ісці па яго слядах?».

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Дзве хуткасці мяжы ў Кузніцы

Пасля некалькіх месяцаў адсутнасці мне ізноў удалося на некалькі дзён выправіцца ў турыстычную паездку ў Беларусь. Так як і папярэднім разам адправіўся я на цягніку Беласток-Гродна. Цана білета ўжо даступная для кожнай кішэні і пэўныя гадзіны праезду ў памежны горад, а гэта важныя аргументы ў планаванні паездкі. Ну і месца ў цягніку значна больш, чымсьці ў маршрутцы, і ногі можна распрастаць на вагонным калідоры. Цягнік з Беластока ў Кузніцу-Беластоцкую імчыць без аніякіх прыпынкаў па маршруце толькі сорак хвілін. У Кузніцы да адпраўлення ў гродзенскім напрамку пасажыраў чакае аж гадзіны перапынак. У тым часе пасля паўгадзіннага суцішша завітваюць да нас польскія памежнікі і мытнікі. Усё адбываецца ў санлівай атмасферы, без нервовасці з боку падарожных і службаў. Падарожных гэта ў многім турысты, якія карыстаюцца бязвізавым рэжымам, і беларусы, якія ўжо ў Польшчы ці Еўропе знайшлі свае месцы працы і, хіба, пастаяннага жыхарства. З намі ў купэ ехалі маладыя людзі, звязаныя з Кракавам, і жанчына, што даўно з'ехала на працу ў Італію. У суседніх купэ было многа сем'яў, што з дзецьмі прыязджаюць ужо толькі наведаць сваіх блізкіх у роднай Беларусі. Эканамічныя гастарбайтары вяртаюцца найчасцей з польскімі пашпартамі як паўнапраўныя грамадзяне гэтай краіны. Гэта выразна паказваюць і польскія статыстыкі, з якіх вынікае, што ў апошніх трох гадах колькасць беларусаў, якія атрымалі дазвол на працу над Віслай і польскае грамадзянства скочыла ўжо за восем тысяч штогадова. Значыць, беларусы пасля ўкраінцаў з'яўляюцца той працоўнай сілай, якой чакаюць польскія работадаўцы і дзяржаўныя службоўцы. Бачаць яны ў абедзвюх нацыях людзей, якія найхутчэй асімілююцца ў культурным, моўным і дзяржаўным плане.

Чыгуначны вакзал у Кузніцы перыяд сваёй кантрабанднай праспeрыты здаецца мець за сабою. Вакол вакзала зніклі прадуктовыя крамы, нават ліквідавана пасада касіркі ў самім будынку. Няма тых дзясяткаў людзей-мурашак, што перавозілі ўсё, пачынаючы з мабільнікаў, вопраткі ці цацак для дзяцей. Пераарыентацыя рынку і шляхоў кантрабанднай перавозкі прынесла змену ў гатунку пераcякаючых тут мяжу пасажыраў. Адзінай рэальнай канторай з'яўляецца мытны пункт, які займаецца выпісваннем квіткоў на зварот ПДВ ад закупленых у Польшчы тавараў. Можа таму той прымусовы перапынак у падарожжы зацягваецца менавіта і па той «ватаўскай» прычыне. Кантрабандна-гандлёвы пульс бізнесу перанёсся зусім у непадалёкі дарожны пераход у машыны, маршруткі і аўтобусы. Там менавіта можна пабачыць і адчуць на ўласнай скуры ўсе непрыемныя і несподзяваныя сюрпрызы, будучыя вынікам падазронасці і павышанай колькасці кантролю ад розных службаў, якім дазволены такія дзеянні ў дачыненні да грамадзян Беларусі і Польшчы. Чакаючы занудліва далейшага падарожжа, перад вачыма проста паўставалі чэргі, эмоцыі і страсці, якія адбываюцца на паралельным пераходзе ў той жа самай Кузніцы. Не гаворачы ўжо, што застрагнуць на пагранпераходзе на чатыры гадзіны ў чаканні перасячэння мяжы гэта не нейкая неспадзяваная прыкрая нечаканасць, але штодзённшчына, якую, здаецца, у рамках пашаны сваёй працы, ахвотна рэгулююць такім тэмпам службы абедзвюх дзяржаў. Журналісцкае апісанне аднаго і другога памежнага пункту гэта два розныя светы.

Едучы цягніком, на здаровы розум, час такога падарожжа можа быць яшчэ скарочаны коштам абмежавання гадзіннага перапынку, бо з Кузніцы ў Гродна гэта таксама сорак хвілін язды. Часамі нагадвае яна падарожжа турыстычнай вузкакалейкай, а не міжнародным цягніком.

Апісваючы папярэднюю паездку, пісаў я, што вялікай нязручнасцю для турыстаў з'яўляецца абавязак запаўняць міграцыйныя карты, стоячы ў чарзе да беларускіх памежнікаў на кантроль. Цяпер урэшце гэты бюракратычны і нікому непатрэбны абавязак цалкам адменены тым, хто не едзе далей у Расію. Праінфармавала пра гэта яшчэ ў цягніку беларуская памежніца, што напэўна не толькі на маім твары, але і ўсіх турыстаў выклікала не толькі ўсмешку, але і палёгку. Застаецца толькі спадзявацца, што гэта добры крок да цалкам бязвізавага рэжыму паміж Польшчай і Беларуссю.

Яўген ВАПА

# Беларуская моладзь: «Чакаем Папу ў сваёй краіне!»

**«Не будзьце маладымі лабірынту, але маладымі ў дарозе», — сказаў Папа Францішак у час сустрэчы з моладдзю ў Вільні. Тут, 22 верасня, на Кафедральную плошчу прыбыло каля 30 тысяч чалавек, з якіх больш за паўтысячы — з Беларусі.**



Вільня на выхадных жыла чаканнем Папы Рымскага. Пра важную падзею сведчылі не толькі рэкламныя плакаты з вывявай Папы і загадзя абгароджаныя вуліцы ў цэнтры горада — пра візіт гаварылі найперш людзі. Ужо ў суботу з раніцы беларусы-католікі сустрэліся на святой імшы ў касцёле св. Рафала Архангела. Сярод паломнікаў са шматлікіх парафій Беларусі былі таксама беларусы Літвы.

— Гэта вельмі знакавая падзея таму, што Ян Павал II прыязджаў 25 гадоў таму і 25 гадоў не было Пантыфіка. Папа Францішак для шмат каго стаў такім блізкім родным. Таму пабыць, паслухаць, паглядзець яго ўжывую, я думаю, для людзей вельмі шмат чаго значыць, — сказала прадстаўніца беларускай меншасці ў Вільні Людвіка Кардзіс.

## Сустрэча з духоўным лідарам

Перш за ўсё маладыя пілігрымы з Беларусі прыбылі са сваімі спадзяваннямі і чаканнямі.

— Гэта незвычайна. Не кожны дзень сустракаеш Папу. І не кожны год, — мяркуюць паломнікі з Маладзечна і Ліды.
— Гэта рэдкая падзея, якая адбываецца, мабыць, адзін раз у жыцці. Вельмі чакаем.

На Кафедральнай плошчы сярод сцягоў з усяго свету лунаў таксама бел-чырвона-белы сцяг маладых пілігрымаў з Менска.

— Папа Францішак вельмі блізкі ўсім людзям, не толькі моладзі. Ён намагаецца праблізіць хрысціянства для сённяшняга свету, моладзь прыцягнуць у Касцёл. Мы гэта прымаем, падтрымліваем. Мы яго любім, — сказала мінчанка, трымаючы беларускі сцяг. — А сцягам паказваем сваю грамадскую паставу (*смех*).

— Я лічу, што галоўны прынцып Хрыста, гэта тое, каб чалавек паважаў сябе, як дзіця Божае, — дадала Маша. — І я гэта бачу, што калі беларусы паважаюць сябе як беларусы, як людзі, як сумленная нацыя, як добры чалавек, то і іншыя будуць іх паважаць.

Оля з Віцебска дадала, што для яе Папа гэта прыклад дабрыні і справядлівасці.

— На яго варта раўняцца. Чакаем Папу ў сваёй краіне, але пакуль што не маем магчымасці яго прыняць, таму дзе ёсць магчымасць сустрэць яго, туды і едзем. Вельмі ўцешыліся, што Папа прыехаў у Літву, гэта такая блізкая краіна і такая непаўторная магчымасць, каб пабачыць Папу.

Паломніцтва Папы Рымскага Францішка ў Вільню ўзбудзіла надзеі на яго візіт у Беларусь. Сярод маладых пілігрымаў з Беларусі, якія сустракалі Пантыфіка на віленскай Кафедральнай плошчы, быў таксама і мітрапаліт мінска-магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

— Напэўна кожны вернік хацеў бы пабачыць свайго духоўнага лідара. І такая магчымасць толькі адна — у Вільні, або ў Коўне. На жаль, Папа яшчэ не можа прыехаць у Беларусь. Мы яго чакаем. Папа ўжо другі раз за 25 гадоў прыязджае ў Балтыйскія краіны. Але калі мы чакаем, то можа прыедзе таксама і да нас.

Дэвізам папскага візіту ў Літву было: «Езус Хрыстус — мая надзея». Таксама сведчанне веры двух маладых літоўцаў былі звязаны з пошукам надзеі.

— Гэта матыў візіту Папы, што Хрыстус — наша надзея. Вельмі важны не толькі для Літвы, а таксама і для Беларусі. Бо ўсе гэтыя выклікі часу сёння адносяцца і да нашай краіны, — адзначыў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. — Малады чалавек у Беларусі таксама часта не ведае, на якім фундаменце ён будуе дом свайго жыцця. І сёння важна паказаць напрамкі як будаваць нашу будучыню.



■ Папа Францішак каля Музея акупацыі і барацьбы за свабоду, які змяшчаецца ў даўняй сядзібе КГБ у Літве – развітваецца з прэзідэнтам Літвы Даляй Грыбаўскайце



## «Мы не з'яўляемся людзьмі без каранёў»

Маладыя жыхары Вільні, якія прымалі ўдзел у сустрэчы з Францішкам на Кафедральнай плошчы падкрэслівалі, што магчымасць пабачыць Папу зблізку была важным духоўным момантам. А яго прамова з'яўляецца стымулам, каб шукаць Бога і актыўнасці ў парафіі.

— Літоўцы цешацца, што менавіта нашу дзяржаву выбраў з ліку трох краін Балтыі на месца сустрэчы з моладдзю, — сказаў Лінас на Кафедральнай плошчы. — Некаторыя параўноўваюць гэту сустрэчу да Сусветных дзён моладзі!

Папа частку сваёй прамовы прысвяціў пытанню тоеснасці. Францішак сказаў для моладзі, што «наша сапраўдная тоеснасць асноўваецца на прыналежнасці да народа, а не на штучнай тоеснасці. Кожны з нас ведае прыгажосць, але таксама цяжкасці і неаднойчы боль прыналежнасці да нацыі. Мы не з'яўляемся людзьмі без каранёў».

Папа Францішак у час сустрэчы з моладдзю на плошчы перад віленскай кафедрай спаслаўся на два сведчанні веры, якімі перад усімі падзяліліся Моніка і Ёнас. Падкрэсліў, што іх жыццёвы вопыт упісваецца ў цяжар гэтых, якія адбудавалі кафедру і не паддаліся тэрору і пераследу ў змрочны камуністычны час.

Святы Айцец заклікаў маладых да мужнасці, ісці за прыкладам Ісуса. Гэта надае найглыбейшы сэнс жыццю, робячы нас людзьмі дарогі, якія ідуць наперад, а не круцяцца вакол, як у лабірынце. «Калі аддадзім жыццё Пану, добрае зерне дасць плён», — завяршыў сваё выступленне Папа Францішак.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Беларускі фэст у Орлі

Беларускі народны фэст „Арлянскія сустрэчы” адбыўся ў Орлі 1 верасня і прыцягнуў, паводле мяне, небывалую дагэтуль колькасць гледачоў; вялікую частку якіх складалі людзі звонку Арлянскай гміны. Адкуль яны наехалі, я не цікавіўся, аднак напэўна былі гэта шчырыя любіцелі беларускай культуры.

Галоўная мастацкая частка адбылася на плошчы перад сінагогай. У адпачынкавым парку былі ларкі з народным рукадзеллем, стэнд Клуба сеніёра з Орлі (кандытарскія вырабы), стэнды пабрацімскіх Боцькаўскай і Чыжоўскай гмін ды інфармацыйны стэнд КРУСу, які праводзіў віктарыны з узнагародамі. Быў таксама стэнд гміннай бібліятэкі, які, апрача састарэлых выданняў па залатоўцы, прапанаваў выданні мясцовых аўтараў Зоі Майстровіч, Сцяпана Копы і Міхала Мінцэвіча. Упершыню быў ларок аж з Белай-Падляшскай з шапкамі пашытымі з лісіных шкур. Для наймалодшых былі шматлікія атракцыёны: з'язджальня (горка), пусканне шароў, маляванне твараў, віктарыны...

Свой стэнд адкрыла таксама — каля 18-й гадзіны — Павятовая камендатура паліцыі з Бельска, дзе можна было памеціць веласіпеды, дзеля чаго патрэбная была квітанцыя куплі. Ахвотных было так многа, што паліцыянтам не хапіла нейкіх квіткоў. На агароджы каля сцэны прэзентаваліся дзве выставы: фатаграфіі Віктара Волкава ды „Макаткі і іншыя шматкі”.

Музычная частка фэсту пачалася каля трэцяй гадзіны пасля поўдня — песняй „Орля, Орля” ў сумесным выкананні калектываў, якія дзейнічаюць пры Гмінным асяродку культуры і ў школе. Першую частку фэсту вяла дырэктар ГАК Анна Несцярук. На сцэне прайшла прэзентацыя дзіцячай моды ў рамках ладжанага ад чэрвеня праекта ETNOkreacje, рэалізаванага фондам Futurum з ГАК і арлянскім праваслаўным прыходам. Былі гэта традыцыйныя ўзоры ў мадэрнай апрацоўцы на ўласнаручна пашытай дзецьмі і моладдзю вопратцы.

Затым былі прамовы гаспадара гміны і некаторых запрошаных гасцей.

Войт Пётр Сэльвесюк прывітаў гасцей а затым сказаў: «Дванаццаты раз маю гонар разам з вамі раскрываць прыгажосць фальклору і традыцыі. Цягам тых гадоў на нашай сцэне выступіла мноства людзей, якія берагуць нашу традыцыю, культуру і абрады ад забыцця, а іх багацце і разнароднасць захапляе і поўніць гонарам. Я ўпэўнены, што апрача выдатнага мастацтва, якое неўзабаве пабачым, важная таксама повязь з жыхарамі Арлянскай гміны ды сыходзячыя ад гэтага радасць і энергія. Таму дзякую запрошаным гасцям, творцам і прадаўжальнікам багатай культурнай спадчыны Арлянскай гміны. Радуюся, што не губляем, а развіваем і мадэрнізуем, чаго прыкладам узведзены побач нас новы арлянскі цэнтр культуры. Мінулыя гады былі пераломнымі ў нашай гміне і няма патрэбы пералічваць усе тыя інвестыцыі, якія былі за той час выкананы. Нішто так не правярае дасягненняў як час. Многія задачы патрабавалі адважных рашэнняў, якія вядуць нас з духам часу, рашэнняў прадуманых і наватарскіх. Наша гміна прагрэсіўна мяняецца, дзякуючы працы ўсіх заангажаваных і спрыяючых нам людзей. Вельмі мяне радуюць словы прызнання і пахвал ад нашых жыхароў ды звонку. Гэта вынік супольнай працы, за якую сардэчна дзякую. Мне важнае меркаванне ўсіх жыхароў. Добрае кіраванне патрабуе глядзець у будучыню, а не толькі расходавання наяўных грошай. Плануем далейшую разбудову ветравой электрастанцыі ды вяду размовы з новым інвестарам. Дзякую жыхарам Арлянскай гміны за тое, што з'яўляюся часткай вашай грамадскасці. Супольнай працай будуем нашу малую айчыну. Яшчэ раз дзякую ўсім і жадаю мілых і добрых уражанняў ды прыемнай забавы».

Да прысутных звярнуўся таксама Юрый Кулабухаў, саветнік Пасольства Беларусі ў Польшчы. Сказаў ён, м.інш.: «Мне вельмі прыемна чарговы раз прыняць ваша запрашэнне і быць разам з вамі на так файным і важным мерапрыемстве, як фэст беларускай культуры „Арлянскія сустрэчы”. З гэтага месца хачу ўсім вам перадаць прывітанне, словы прызнання і найлепшыя пажаданні ад амбасадара Беларусі ў Польшчы Аляксандра Авяр'янава. Пажаданні ўсяго найлепшага, удалага фэсту і ўдалых чарговых гадоў жыцця і распаўсюджвання беларускай культуры тут, у Орлі. Шаноўныя арляне! Калісь хтось напэўна вельмі трапна назваў гэтае мерапрыемства „Арлянскімі сустрэчамі”. Калі я сюды ехаў, дык таксама падумаў, што сапраўды гэта не толькі канцэрт, не толькі кірмаш, але перш за ўсё гэта сустрэча з тымі блізкімі людзьмі, з якімі я ўжо знаёмы, з тымі новымі сябрамі, якіх тут пазнаю; таму вельмі важна захаваць гэты дух сустрэч, калі людзям хочацца сюды прыязджаць. Я заўсёды пад вялікім уражаннем ад таго, як жыхары Орлі і кіраўніцтва гміны пяшчотна зберагаюць спадчыну сваіх продкаў. Не толькі зберагаюць, але развіваюць і пастаянна ўносяць нешта новае. Тут хачу вам выказаць словы вялікай удзячнасці за тое што мы бачым, што адбываецца і як мяняецца Орля. Ужо ўзведзены новы будынак цэнтра культуры, неўзабаве дзеткі пойдуць у школу, дзе таксама будуць вывучаць беларускую мову. А гэта абазначае, што Орля жыве, развіваецца, трымаецца свайго і з гэтым астанецца. Вельмі яшчэ важна, шаноўныя сябры, што сёння мы ўсе тут разам. Тут ёсць мясцовыя беларускія калектывы, ёсць калектывы з Рэспублікі Беларусь, а гэта абазначае, што традыцыю трэба захоўваць, каб мы збіраліся разам, разам адзначалі свята беларускай культуры і разам гэтым ганарыліся. Вялікае вам дзякуй, dziękuję bardzo!».

Віцэ-староста Бельскага павета Пётр Божка сказаў м. інш.: «Орля гэта незвычайная зямля, але Орля гэта галоўным чынам людзі. Орля гэта таксама яе гісторыя і месца для той гісторыі асаблівае. Але асаблівая і дата 1 верасня — 79-я гадавіна выбуху Другой сусветнай вайны. За намі засталося сведчанне таго трагічнага часу, бо большасць жыхароў тадышняй Орлі тае вайны не перажыла — аб гэтым трэба памятаць. Той дзень быў трагічным для кожнай сям'і. Заўсёды, калі рана прачынаюся, думаю, што рабіў мой дзедка ў той дзень, бо служыў ён у 9 палку цяжкай артылерыі на Уладаве; вайну ён перажыў. Мінае час, усё змяняецца, змяняецца таксама Орля. Цягам дванаццаці гадоў працы войта Пятра Сэльвесюка з адстаючых у маштабе краіны гмін Арлянская гміна стала адной з найлепшых у Польшчы. І маю надзею, што дом культуры, які рос на вашых вачах, будзе адным з найлепшых на культурнай карце Падляшскага ваяводства, будзе адным з найлепшых дамоў беларускай культуры, а таксама культуры польскай. Бо гэта робяць людзі, якія тут жывуць і тут працуюць».

Войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк падкрэсліў, што Арлянская гміна змяняецца ў экспрэсных тэмпах, што мае добрага гаспадара. І выказаў глыбокае спадзяванне, што гэты гаспадар будзе выконваць гэтую функцыю ў чарговы тэрмін, што жыхары гміны падтрымаюць яго ўсімі сіламі.

Мастацкую частку фэсту, вельмі багатую, вяла Эдыта Русіновіч з Орлі. На сцэне чаргова выступілі калектывы: „1/3” са школы ў Орлі, „Арляне”, група „Гай” з салісткай Эдытай Сухар з Орлі. За імі выступіў калектыў „Падляшскі вянок”, які вядзе аб'яднанне АБ-БА з Беластока.

У ходзе выступлення войт Пётр Сэльвесюк аб'явіў вынікі конкурсу на найпрыгажэйшую сядзібу. Вылучэнне і 300 злотаў атрымаў Леан Грынявіцкі з Орлі, трэцяе месца і 700 злотаў Валянціна Юрчук з Кошак, другое месца і 800 злотаў Януш Бобік з Крывятыч, а першае месца і тысячу злотаў Уршуля і Яўген Бэдэнічукі са Шчытоў-Дзенцялова.

Пазней выступілі печуая група з Мора, „Малінкі” з Маліннік ды „Белыя росы” з Беларусі. А яшчэ пазней „Фэрмата”, „Чыжавяне”, „Асенні ліст”, „Вэрвачкі” ды „Гуляй казак” і „Купалінка” з Беларусі. Гледачы сядзелі, стаялі, танцавалі, спявалі... У дзевяць гадзін вечара ў неба выстралілі разнаколерныя феерверкі...

Усё пайшло па думцы арганізатараў, а нават яшчэ лепш, бо публікі было вельмі многа. Паспрыяла нават надвор'е. І цяжка нават уявіць, каб у Орлі не было фэсту. Беларуская музыка прыцягвае (але не ходзяць на фэст католікі і навасёлы). Прываблівала таксама танцавальная забава, якая закончылася каля першай гадзіны ночы.

Тэкст і фота
**Міхала МІНЦЭВІЧА**



Калектыў «Падляшскі вянок» з Беластока



Паказ мод у рамках праекта «ETNOkreacje»



Войт Арлянскай гміны Пётр Сэльвесюк



Палатка народных мастакоў Арлянскай гміны. Сурвэтку прэзентуе Вольга Несцярук з Крывятыч

# У Супраслі свабода стварання

У рамках Еўрапейскіх дзён спадчыны 9 верасня ў Супраслі пачалася выстава маладых мастакоў «Свабода стварання! Створанне свабоды». Чацвёра маладых мастакоў з Беласточчыны выводзяцца з недалёкага манастыру Мастацкага ліцэя імя Артура Гротгера ў Супраслі, і такім чынам звязаны яны з гэтым горадам. Іх сямейныя дамы раскіданыя па ўсім рэгіёне паўночна-ўсходняй Польшчы. Іх мясцовыя, сямейныя традыцыі, якія паўплывалі на развіццё іх творчай свядомасці і ідэнтыфікацыі паказвае адбор твораў, вельмі разнастайных, у той жа час, надаючы яму форму рознакаляровай мазаікі. Таксама індывідуальныя рысы аўтараў, іхнія тэмпераменты і асабістыя страсці выяўляюцца не толькі ў сюжэтах, але і ў шырокім дыяпазоне тэхнік і мастацкіх дысцыплін. Глядач мае кантакт з традыцыйнымі рашэннямі мастацкай тканіны, і з сучаснай формай передачы — плакатам. Усе гэтыя аспекты даюць глыбокае сведчанне аб творчай свабодзе, якая з'яўляецца натуральным вынікам асабістай свабоды кожнага з аўтараў, даючай магчымасць развівацца, спазнаваць сябе, культываваць спадчыну мінулых пакаленняў, але, перш за ўсё, фармаваць навакольную рэчаіснасць у свабоднай краіне. Артысты: Маргарыта Баўтручук (Гайнаўка) — студэнтка Акадэміі мастацтваў у Лодзі (факультэт графікі і жывапісу), Кацярына Гліва (Храбалы) — студэнтка АМ у Гданьску — факультэт скульптуры і інтэрмедыяў, Марта Янкоўская (Сувальшчына) — студэнтка АМ у Лодзі — факультэт тканіны і адзення, Якуб Сабчак (Алецка) — студэнт факультэта мастацтваў Універсітэт імя М. Каперніка ў Торуні, графічнае праектаванне.

Ідэя выстаўкі маладых мастакоў, якія працуюць таксама ў іконе (Сабчак і Баўтручук) выспела ў думках канцлера Супрасльскай акадэміі а. Яраслава Юзвіка.

— Я прыглядваўся таму, што яны робяць, як ствараюць, і прыйшоў да высновы, што варта паказаць працы гэтых маладых, таленавітых мастакоў. У нашай выставачнай зале ў акадэміі паказваем творчасць нашых выдатных мастакоў, якія выводзяцца з нашага староння. Хтосьці тут нарадзіўся, хтось жыве, хтось вучыўся, ствараe, набірае натхнення. Таксама паказванне творчасці маладых аўтараў, іх каштоўнасці. Наша акадэмія — кліматычнае месца, прыцягвае шмат захопленых людзей. Супрасльская акадэмія — таксама такое месца свабоды ў хрысціянскімі, адказным, разумным разуменні. Свабодны чалавек у сваёй свабодзе стварае дабро, прыгажосць. Фёдар Дастаеўскі сказаў, што «краса ўратуе свет». Прыгажосць вызваліць чалавека, мастака. А гэтай чацвёркі я б не пазнаў, калі б не мая жонка, матушка Дамініка, якая была іхняй настаўніцай у ліцэі... Казала, яны геніяльныя, уражлівыя мастакі, робяць цікавае. Маем тут розныя тэхнікі, таксама двухасноўную тканіну, маем скульптуры, графіку, жывапіс, плакат. Думаю, што не адзін раз пачуем пра творчасць гэтых мастакоў, для якіх важнае таксама тое, што ў гэтай зале меў сваю выставу таксама іх старэйшы калега з ліцэя, сусветны майстра мастацтва Лявон Тарасэвіч.


Марта Янкоўская, Кацярына Гліва, Маргарыта Баўтручук, Якуб Сабчак, а. Яраслаў Юзвік

— Мы, як відаць, маладыя людзі, — сказала Маргарыта Баўтручук, — якія толькі пачынаюць свой творчы шлях, сваю прыгоду з мастацтвам. Мы выйшлі з гэтага месца, цяпер мы на розных вучэльнях, але спалучае нас адно — мастацтва, і своеасаблівае бачанне свету. У маёй творчасці я звяртаюся таксама да мінулага маёй сям'і, ментальнасці майго роду, народу. Хаця наша творчасць — гэта свабодная будучыня. Беларускай мове вучыла мяне спадарыня Людміла Грыгарук... Кася Гліва мае таксама задумы ў сваёй скульптурнай творчасці на тэму Райска.

Выставу можна глядзець у выставачнай зале Супрасльскай акадэміі, на тэрыторыі Благавешчанскага манастыра, да 31 кастрычніка.

**(лук)**

Фота Міры Лукшы

# Скансэн духмяны і спеўны


«Трыяда»

Традыцыйная падляшская кухня — кухня духмяная ад зёлак — размарыну і чабору, якія ахвотна дадаюць да мяса, мяты, з якой можна прыгатаваць не толькі асвяжальны напой, але і духмяныя дэсерты і соусы, любістай (любчыкам) — знакамітай прыправай для супоў. Варта перaканацца, як, умела дададзеныя, узбагачаюць смак і пах ежы, або лячэбных настоек. Травы, якія выкарыстоўваюцца на працягу многіх стагоддзяў у народнай медыцыне, могуць палегчыць здароўе пры любых хваробах. Нашы прабабулі для лячэння праблем са страўнікам выкарыстоўвалі палын. Скурныя захворванні зажывалі ад кампрэсаў з рамонку. Раны прамывалі настойкай з крапівы. Не дзіўна, што з такой колькасцю пераваг, травы сталі важнай часткай народнай традыцыі. Нашы продкі прыпісвалі ім магічныя сілы. Сталі яны часткай рытуалаў. Расліны, асвячоныя святаром падчас Тройцы, мелі абараняць хату ад удару маланкі, збожжа — ад абжорства грызуноў, хатніх жывёл і ніву — ад злых духаў.

9 верасня 2018 г. Падляшскі музей народнай культуры — скансэн у Юраўцах яшчэ раз запрасіў усіх пазнаёміцца з зёлкамі Падляшша і іх выкарыстаннем. Падчас фэсту «Падляшша духмянае зёлкамі» можна было паспрабаваць травяныя і лекавыя настойкі, паслухаць лекцыі па іх вытворчасці, паглядзець жывую пасеку, папоўніць запасы мёду, зёлак і прадуктаў з іх, купіць расаду зёлак, кветак і агародніны, пакаштаваць стравы рэгіянальнай кухні і набыць іх у хатнюю каморку для запасу.

Фэст, які з'яўляўся часткай Дзён еўрапейскай спадчыны, у гэтым годзе суправаджалі выстава, прысвечаная млынам-ветракам, аўтарства Артура Гаўла і агляд фальклорных калектываў і выканаўцаў Падляшша «У пошуку і перадачы фальклору», арганізаваны Ваяводскім цэнтрам анімацыі культуры.

Пераможцы агляду капэл і народных спевакоў паедуць на Агульнапольскі фестываль капэл і народных спевакоў у Казімежы-Дольным. Выступіла каля 150 спевакоў, у катэгорыях: вакальныя калектывы, народныя спевакі, народныя капэлы, калектывы і салісты «майстар-вучань» ды калектывы і салісты рэканструяванага фальклору. «Мужчынская кампанія» з Каліноўкі-Касцельнай здабыла была «Башту» на мінулагоднім, 52 выпуску таго фестывалю. Вельмі цікавы ў іх фальклор — песні спяваюць з «мазурэннем», але і з тутэйшымі беларускімі ўплывамі — «прысэд до дзеўцыны»). Сярод беларускіх калектываў прыгожа выступілі «Трыяда», і асобна салісткі — у катэгорыі «майстар і вучань» — Анна і Каліса Пятроўскія. Крыху ў меншым складзе, але зладжана і спраўна, заспявалі «Верасы» з Вілінава і «Малінкі» з Маліннік. На жаль, на агляд не прыехалі калектывы з Гарадка, якія заўсёды з поспехам прадстаўлялі нашу ваколіцу на гэтым фэсце. Фэст закончыў канцэрт Калектыву песні і танца «Курпе зялёне».

У гэты раз надвор'е было адметнае — сонечнае, з вецяркам. Найлепш хіба адсвяткаваў баранчык з Сушчага Барка ў Нараўчанскай гміне, які прыехаў з агра-гаспадаром Уладкам Грыкам, і не адрываўся ад духмянай, свежай кветна-лугавой траўкі. Варта з'ездзіць у Скансэн (з Беластока едзе аўтобус № 102, у бок Юроўцаў), наведаць гэты цікавы музей самастойна або ў групах, таксама на падобныя фэсты, якія арганізуюцца тут часта. Можна тут нават пераначаваць. Неўзабаве ў скансэне — «капанне бульбы» і іншыя асеннія абрады.

**(лук)**

Фота Міры Лукшы


Фота Аляксандра Вярбіцкага

## Патрыярх Александрыйскі Феадор II з візітам на Падляшшы

З 19 па 24 верасня праходзіў кананічны візіт Феадора II у Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, перш за ўсё на Падляшшы. Александрыйскі Патрыярхат — другі паводле іерархіі ў сусветнай Праваслаўнай царкве. 21 верасня праваслаўныя ўспаміналі Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы. Гэта першае з дванаццаці вялікіх свят у царкоўным календары. Разам з Нараджэннем Багародзіцы ў гэты дзень узгадваюць таксама Яе бацькоў — Яхіма і Ганну. Як штогод урачыстыя, гарадскія святкаванні прайшлі ў Прачысценскай царкве ў Бельску-Падляшскім. Узначальвалі іх мітрапаліт варшаўскі і ўсёй Польшчы Сава ды Папа і Патрыярх Александрыйскі і ўсёй Афрыкі Феадор II.

— Гэта гістарычная падзея, — кажа айцец Андрэй Мінько. — Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы — асаблівае свята ў нашым горадзе Бельску. У старажытным горадзе самы старадаўні храм — Прачысценскі. І ў наш горад прыбыў і служыў Боскую Літургію Папа і Патрыярх Александрыйскі і ўсёй Афрыкі Феадор II.

Апрача Бельска-Падляшскага Папа Феадор служыў багаслужбу ў Беластоку і наведаў манастыр у Звярках (фота). Візіт супаў з чарговай гадавінай пераносу мошчаў Гаўрыіла Заблудаўскага з Гродна ў Беласток.

**На аснове racyja.com**

## Пра выбары

Хоць да самаўрадавых выбараў яшчэ застаецца крыху часу, у Чаромсе вядзецца ўжо шырока задуманая кампанія. Неафіцыйна гаворыцца, што за пасаду войта збіраецца сапернічаць пяцярых кандыдатаў — трох мужчын і дзве жанчыны. Усе яны чарамшанам добра вядомыя. Чатыры кандыдаты з Чаромхі-Станцыі, пяты — з прыгранічнай Бабро́ўкі. Астатні — прыезджы, хоць карані мясцовыя. Гаворка пра Стэфана Аляксеюка. Падаю прозвішча таму, бо ён сам афіцыйна заяўляе, што балаціруецца на пасаду войта. Яго выбарчым упаўнаважаным з'яўляецца Кляўдзюш Вэсолэк, які нядаўна пасяліўся на пастаяннае жыхарства ў суседніх з Бабро́ўкай Зубачах. Варта адзначыць, што абодва — адборныя агітатары. Кандыдат на войта моцны ў прамовах, упаўнаважаны кандыдата вядомы як інтэрнэтны фотакамерыст. Запісвае ён размовы з мясцовымі жыхарамі і змяшчае на сайце «Чаромха і наваколле».

Ці з гэтай мукі будзе хлеб? Цяжка сказаць. На маю думку Чаромсе патрэбны сапраўдны гаспадар, які сумее даказаць сваю прыгоднасць не гладкай гаворкай і зманлівымі абяцаннямі, але дагэтуль здабытымі ведамі, вопытам у кіраванні і дасягненнямі ў мінулым. З таго, што мне вядома, дык на аднаго мяркую. Але гэта мая таямніца. Чарамшанам раю сур'ёзна задумацца, пры якім прозвішчы паставіць крыжык. Бо ад таго будзе залежаць не толькі будучыня пасёлка, навакольных вёсак, усёй гміны, але і лёс пенсіянераў ды маладога пакалення. Адно магу падказаць: не дазваляйма звесціся красамоўным выбарчым абяцанням і дапусціць памылку з апошніх самаўрадавых выбараў.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі


фота Галіны Рамашкі

# Прызналіся ў любові да кніжак!

Так, так! Тыдзень таму яшчэ панавала лета. Панавала як трэба, да апошняга каляндарнага летняга дня! Гэты час будзем успамінаць не толькі з-за сонечнага надвор'я. У сераду, 19 верасня, у «Ніву» завіталі чацвёртакласнікі з Непублічнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія з настаўніцай Іааннай Марко. Дзеткі прынеслі ў падарунку каштаны, жалуды і віншавальную картку з аўтографамі і пажадальнымі словамі.

Як аказалася ў ходзе сустрэчы, беларуская мова ім не чужая. Наадварот, з ёй спалучаліся цёплыя пачуцці да бабуль і дзядуляў, вясковых сваякоў. Да таго многія з іх вывучаюць беларускую мову, пачынаючы з садка. Таму, калі адкрывалі мы старонкі «Зоркі», дзеці ўголас чыталі загалоўкі і хуценька разгадалі надта складаную загадку. Яны таксама паслухалі верш пра ласяня з Ласінян у выкананні самой аўтаркі, Міры Лукшы. На аснове гэтага верша ўзнікла маляванка, якую мы прапанавалі нашым сябрам.

Але не гэта захапіла найбольш!

Ужо на пачатку дзеці прызналіся ў любові да кніжак. Ды беларускія кніжкі іх не палохалі, наадварот, нашы госцейкі вельмі эмацыйна ўспрынялі прэзентацыю «Азбукі» Рыгора Барадуліна. А Толік Адзіевіч, калі пачуў, што паэтычны том «Жывінкі з глыбінкі» пачынаецца вершам «Арлы з Орлі», увесь час дапытваўся, як выйграць гэтую кніжку.

— Бо я там жыву, — заявіў хлапец.

Папраўдзе, хлапец наш беластоцкі сусед, ён жыве па вуліцы Заменгофа, дзе змяшчаецца рэдакцыя «Нівы». Аднак прыемна, калі беластоцкія дзеці атаясамліваюцца з месцам нараджэння бацькоў.

— А мая цёця пісала ў «Зорку»! — завіла адна дзяўчынка.

— А як завецца цёця?

— Эвеліна Цімашавіч.

— Добра памятаю!

Цёця Эвеліна, калісь вучаніца бельскай «тройкі», пісала артыкулы і вершы ў «Зорку». Яна таксама прыязджала на майстар-класы Сустрэчы «Зоркі», дзе гуляла ў тэатр і пазнаёмілася з сябрамі. Гэтыя ўспаміны паказалі як трывалыя сувязі і сяброўствы завязваюць між сабой аўтары «Зоркі». Многія дзеці адразу схацелі быць нашымі карэспандэнтамі. Яны паабяцалі старанна вывучыць беларускую мову і навучыцца самастойна чытаць кніжкі і газеты.




І ведаеце — радасна на душы!

Ніхто раней не прадбачыў, што беластоцкія дзеці з цікавасцю і любоўю стануць прадаўжаць родную спадчыну. І гаварыць, што вёскі іх сваякоў — іх родныя вёскі.

**Зорка**

## Песня пра восень

Гэты чароўны верш напамінае карціну парыжскіх імпрэсіяністаў. Невыпадкова Якуб Колас стварыў яго ў пачатку XX стагоддзя. Тут намаляваныя словы і настрой надыходзячай восені. На словы класіка адгукнуўся беларускі кампазітар Ян Тарасевіч з Сакольшчыны. У 1918-1919 гадах ён працаваў настаўнікам музыкі ў беларускай школе ў Гродне. Ён напісаў музыку для сваіх вучняў менавіта на словы класіка. І што тут казаць — музычны шэдэўр па сённяшні дзень не мае сабе роўных!

Яго можа пашукаць у сеціве, паколькі ён гучаў у мінскіх радыёперадачах і канцэртах, прысвечаных Яну Тарасевічу.

*Якуб Колас*

### Восень

Пуста ў лузе. Толькі стогі
Парыжэўшыя стаяць,
Ды шпакі каля дарогі
Цэлы дзень адно крычаць.
Грэчка зжата. Гола ў полі.
Жыта звезена даўно.
Толькі плаваюць на волі
Кучы хмар, як валакно.
Дождж сее беспрастанку;
Вецер свішча так, як звер...
Колькі лужын каля ганку!
А гразі, гразі цяпер!
Ссохлі травы, ўсё павяла.
Слоць, плюхота, холад, цьма.
Эх, скарэй бы закрывала
Зямлю чорную зіма!

## УВАГА КОНКУРС! № 39-18

**З чалавекам ён сябруе,**
**Ноччу двор яго вартуе,**
**Служыць шчыра небарака,**
**Хоць і кажуць: «Злы с.....».**

**(Н. Парукаў)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 7 кастрычніка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 35: шампіньён. Узнагароду, наклейкі, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

Вучні бельскай «тройкі»

*Лукаш АНХІМ*
*ПШ у Міхалове*

## Пойдзем у грыбы

Сёння суботу маем,
У грыбы выбіраемся.
Тры кошыкі, вядзёр шэсць.
Ну і едзем у лес.

Шуру, буру, шух, шух, шух!
Лістоў тут цэлы луг.
Грыбы пад імі растуць.
Як іх убачыць?

Гэта твой труд.
Пад бярозай які грыб!
Ён карычневы,
Смачны вельмі ён.

Гэта баравік!
Радасць была вялікая,
Калі знайшоў я баравіка,
Але калі я яго ў рукі ўзяў –
Чарвяк яго ўжо пакаштаваў!

Сумна мне вельмі было,
Але праз хвіліну ўбачыў,
Недалёка пад сасной –
Сем баравікоў!



## З народнага календара

Нашы продкі назіралі з'явы ў прыродзе і па іх прагназавалі будучае надвор'е.

Паназірайце і вы! Будзе бачна, ці старыя метады падыходзяць да нашага часу. Апрача гэтага пабачыце, як прыемна назіраць і думаць пра родную прыроду!

* * *

У кастрычніку гром — зіма без снегу.

* * *

Чорныя воблакі ідуць на небе нізка і хутка — дрэннае надвор'е будзе працяглы час.

(з-ка)

# НА РАЎЧАНСКАЯ ластаўка



Малюнак Марк Кутузаў
школа ў Нарве

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Цудоўны ложак

Адзін знакаміты чыноўнік у слаўным горадзе Канстанцінопалі завінаваціўся так, што не ведаў ужо колькі ў яго даўгоў і колькі ў яго даўжнікоў. Ніхто пра гэта не ведаў і ён сам не падаваў віду, што ў яго фінансавы крах. І замест нешта рабіць, шукаць паратунку чыноўнік безупынна спаў. А калі ён памёр, аказалася, што ў яго кругом ворагі. І кесар, калі пра гэта пачуў, сказаў сваім служкам: «Прынясіце да мяне гэты ложак, бо ён цудадзейны».

І дадаў:

— Сапраўды, варты найбольшай пашаны ложак, які даваў сон завінавачанаму па вушы махляру!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 39-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 35-2018:**

Шум, сфера, партрэт, гітара, каравай, фотка, на, крок. Шанс, кош, гара, спірт, атака, справа, рай, но, аўторак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Магда Якубюк, Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Wieś | Ina / Siano | | Wzrost | Bierz | | Siedem / Kolonia | | | |
| | | | | Osłona / Fundacja | | | | | |
| | Szpak | | Pora-nek | | Dekret / Start | | | | |
| | | La / Marzenie | | | | | Sok / Żyła | Ewa | |
| | Montaż / Mat | | | | | | | | Mazidło |
| Manda-rynki | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | |
| Para / Tak | | | | Trawa | | | | | |

# Як іспанская дзяўчына стала беларускай паэткай

**Размова з АНХЕЛАЙ ЭСПІНОСАЙ РУІС была праведзеная МІКОЛАМ ВАЎРАНЮКОМ у студыі Беларускага Радыё Рацыя ў Беластоку.**



Фота racyja.com

**— Вы не проста з Іспаніі, а з самага яе поўдня, з Малагі. Гэта, выбачайце, для нас калі не канец свету, то Еўропы дакладна.**

— Яно так і ёсць — канец Еўропы. У нас ёсць нават балкон Еўропы ў горадзе Нэрха каля Малагі. У прынцыпе я павінна быць далёкай ад усяго беларускага.

**— Дык адкуль у дзяўчыны з поўдня Іспаніі зацікаўленасць Беларуссю, беларускай мовай?**

— Калі мне было пятнаццаць гадоў я атрымала вельмі цікавую стыпендыю па дыпламатыі ад Дзяржаўнага сакратарыята ЗША. Я была адзінай іспанкай на гэтай праграме. Там былі людзі з розных краін Еўропы, Азіі, канешне, з розных штатаў. Я там упершыню пачула славянскія мовы. Я не чула розніцы між імі, не ведала, дзе адна славянская мова канчаецца, а пачынаецца другая. Гэтыя мовы мяне заінтрыгавалі, спадабаліся па гучанні. Дамінавала, канешне, руская мова, але была пара палякаў, якія разпораз пераківаліся польскімі словамі, быў украінец, былі беларусы...

**— Беларусы, якія размаўлялі па-беларуску?**

— Адзін хлопец стаў абмяркоўваць нейкую справу з украінцам і яны перайшлі на родныя мовы. Хаця ён быў наогул рускамоўным, то ў спрэчцы перайшоў на беларускую. Іншыя людзі з былога СССР сталі наракаць, што яны нічога не разумеюць. Я нават спыталася: «А чаму вы не разумееце? Яны не па-расейску гавораць?» Не, яны на сваіх мовах, пабеларуску і па-ўкраінску. Мне было вельмі цікава. А праз год я была на сустрэчы ў Балгарыі, дык мне вельмі спадабалася балгарская. Я ўжо кірыліцу чытала. Планавала вывучыць рускую мову. Але так склалася, што я там пасябравала з беларусамі. Яны пачалі мяне знаёміць з беларускай культурай, музыкай, літаратурай у перакладах. У 2010 годзе я напісала артыкул пра прэзідэнцкія выбары...

**— Тыя, калі людзей моцна білі...**

— Было такое. Таму я не стрымалася і вырашыла апісаць іспанцам тое, што адбывалася ў Беларусі.

**— Дзе быў апублікаваны гэты тэкст?**

— У рэгіянальнай газеце ў Малазе. Можа яшчэ дзе, бо я парассылала ў розныя рэдакцыі. Яны мне нічога не адказалі і, адпаведна, не заплацілі ганарару (*смех*). Мне было сямнаццаць гадоў, я не хацела ніякіх ганарараў. Я хацела, каб іспанцы даведаліся, што ў Еўропе ёсць такая краіна Беларусь і што ў ёй адбываецца, калі яны, скажам, заканчваюць рабіць калядныя пакупкі. Гэта для мяне было важна.

**— Для іспанцаў, здаецца, важней было тое, што адбывалася тады ў арабскіх краінах. Там пачыналася рэвалюцыя.**

— Ну так, журналістам, якія займаюцца міжнароднымі пытаннямі, было не да Беларусі. Цяпер я гэта разумею, але тады моцна злавалася. Як бы там не было, усё ж такі мой тэкст апублікавалі, былі на яго водгукі. Пра беларускія выбары загаварылі ў электронных смі, хай сабе адзін дзень, але тэма з'явілася. Мая сяброўка прымусіла мяне даслаць гэты тэкст на конкурс „Беларусь у фокусе", арганізаваны ў наступным годзе ў Варшаве. І я нейкім цудам перамагла ў гэтым конкурсе. Мяне запрасілі ў Варшаву, дзе я першы раз апынулася ў беларускамоўным асяроддзі. Там былі беларускія журналісты, палітычныя і культурныя дзеячы. Мне вельмі моцна спадабаліся і людзі, і мова. Я на той час ужо крыху падвучыла рускую мову, стала вывучаць украінскую на вершах Ліны Кастэнка, польскую мелася вывучаць ва ўніверсітэце. Ужо была крыху азнаёмленая са славянскімі мовамі. Вельмі мне спадабалася беларуская, як толькі яе пачула. Ну і я зразумела, што калі мне падабаецца Беларусь, калі я хачу быць у курсе беларускіх спраў — мне трэба вывучаць беларускую мову.

**— Ці ведалі Вы, што беларуская мова ў Беларусі вельмі мала запатрабаваная?**

— Я ведала ад сяброў, што беларуская мова ў Беларусі гэта мова меншасці. Але з другога боку гэта мова культуры, мова эліты і пэўных плыняў, якіх без ведання мовы не зразумееш. Я хацела патрапіць у гэтую эліту. Ну, чым я горшая (*смех*)?

**— Вас тут трэба павіншаваць, бо Вы не толькі трапілі ў гэтую эліту, але сталі важнай яе часткай. Вас сталі называць беларускай паэткай.**

— Мяне дагэтуль гэта моцна здзіўляе.

**— Тым не менш, Вы не адразу папалі ў Менск, а сталі вывучаць беларускую мову ў Варшаве.**

— Вучыцца ў Менску замежнікам вельмі дорага. Таму я стала шукаць варыянты ў Еўрасаюзе. Убачыла, што ёсць беларуская філалогія ў Беластоку, напісала ім, але мне адказалі, што ўжо некалькі гадоў яны не вядуць набору. Думала пра Літву, але там у ЕГУ таксама былі нейкія праблемы з беларускай філалогіяй. Таму я рашылася на Варшаву. І зрабіла вельмі добра. Там выкладаюць многія беларусы, напрыклад, мой навуковы кіраўнік Мікалай Хаўстовіч раней шмат гадоў працаваў у БДУ. Кафедра — невялікая ўстанова, але гэта мае свой станоўчы бок — там усе як сям'я.

**— Дарэчы, а як Ваша сям'я адрэагавала на тое, што Вы сталі вывучаць славянскія мовы, а да таго яшчэ з іх выбралі не самую прэстыжную? Мову, якую самі беларусы не хочуць вучыць.**

— Спачатку было складана. Я не хачу хваліцца, але я была адораным дзіцём. Мела талент і да моў, і да іншых школьных прадметаў. Мае бацькі хацелі выбраць мне перспектыўную прафесію, юрыста, дыпламата, канешне, не філолага. Калі я стала вывучаць мовы, то два гады канфліктавала з мамай. З бацькам не, бо ён не вучыўся ва ўніверсітэце і падыходзіў да гэтага больш спакойна. Казаў, я табе давяраю, думаю, што ты сама найлепш ведаеш, што да чаго. Ну, канешне, было б лепш, каб ты выбрала права або медыцыну, але калі ты выбрала гэта, то ідзі. А мама гэта цяжэй успрымала. Яна была з небагатай сям'і, пры Франка была сіратой і жылося ёй цяжка. Таму яна хацела, каб я жыла лепш за яе. Калі стала ясна, што я буду займацца філалогіяй, яна казала, выберы ты англійскую, нямецкую ці кітайскую мову. Ну ладна, хоць расейскую. У канцы яна змірылася, бо для яе было таксама важна, каб я займалася тым, што люблю. У маёй сям'і заўсёды верылі, што чалавек, калі моцна хоча, моцна стараецца, можа стаць кім заўгодна. Проста мае бацькі не ўяўлялі, што я захачу стаць беларускай паэткай. Тым не менш, калі я заявіла, што паеду вучыцца на магістратуры ў Варшаву, яны ўжо гэта ўспрынялі спакойна.

**— А калі Вы першы раз папалі ў Беларусь?**

— Сабралася на кафедры невялічкая група студэнтаў і мы паехалі. З намі была дасведчаная ў беларускіх справах сяброўка Ганна Пякарская (у мінулым старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў — М. В.), без якой мы там проста не выжылі б. Цудоўная дзяўчына, яна вельмі дапамагла ва ўсіх адміністрацыйных справах і ў арганізацыі пабыўкі. Апрача мяне і Ганны ў групе былі адны палякі. Мне было цікава назіраць, якія яны маюць стэрэатыпы пра Беларусь. Яны, напрыклад, шукалі прыкмет дыктатуры, шукалі доказаў, што беларусы п'юць мацней за палякаў (ну, я тут паспрачалася б).

**— А чаго Вы шукалі?**

— Я нічога не чакала, ні на што не спадзявалася. Я проста хацела ўбачыць, як выглядае Беларусь. Я хацела ўбачыць тую краіну, якая мяне так моцна цікавіць, якую я люблю. І яна мяне не расчаравала, хаця мае беларускія сябры гэтага баяліся. Казалі, можа не едзь, можа любі Беларусь здалёк.

**— Паездка Вашай любові не пашкодзіла.**

— Наадварот. Вельмі добрыя людзі, цікавая архітэктура, цудоўная прырода. Мне нават Менск спадабаўся, хаця мяне асцерагалі, што ён такі савецкі. А мне ён падаўся вельмі цікавым. На дадатак дзякуючы Менску я стала першай у сям'і мільянеркай, чым я моцна ганаруся. У 2015 годзе я была на прэзентацыі першага зборніка сваіх вершаў, за які я зарабіла тры мільёны беларускіх рублёў.

**— Што больш уразіла Вашых сямейнікаў, тое, што Вы пішаце вершы на незразумелай ім мове, нейкімі дзіўнымі літарамі, ці Вашы пераклады Максіма Багдановіча на іспанскую мову?**

— Дзіўная рэч, але я адчуваю, што вяду такое падвойнае жыццё. Для маёй сям'і я застаюся той малой дзяўчынкай, якая прыязджае да іх на канікулы. Яны ведаюць, што я пішу, што выдала некалькі зборнікаў, але не надаюць гэтаму вялікай увагі. А сярод беларусаў я быццам бы іншая асоба. Было такое, што ў метро ў Менску папрасілі зрабіць разам са мною сэлфі. Бы з нейкай зоркай. У выніку бацькі ганарацца мною. Ведаюць, што я не благі філолаг, што мяне ў Беларусі цэняць як паэтку.

**— А чым цяпер займаецеся і якія Вашы бліжэйшыя планы?**

— Я паступіла ў аспірантуру ў мадрыдскі ўніверсітэт Камплутэнсэ. Пішу дысертацыю „Матывы фалькрорнага паходжання ў Яна Баршчэўскага і Густава Адольфа Бэкера" (іспанскі паэт, рамантык). Яны маюць шмат падобнага і шмат цікавых адрозненняў. Бліжэйшыя месяцы, да снежня, я правяду ў Варшаве на навуковым стажы.

**— З Варшавы ў Менск недалёка. Думаю, што беларусы ў бліжэйшыя месяцы будуць мець магчымасць не раз зрабіць з Вамі сэлфі ў менскім метро.**

— Канешне. Я заўсёды рада!

Гутарыў **Мікола ВАЎРАНЮК**


■ Царква на абочыне Кузніцы

# Кузніца

Заглядаю ў кузніцкую бібліятэку, цікаўлюся кніжнымі выданні пра гмінную мясцовасць, але ў адказ даведваюся, што такіх няма, затое працаўніцы ўстановы паказваюць мне папку, у якой сабраны нешматлікія прэсавыя выразкі пра сам гмінны цэнтр і некаторыя іншыя мясцовасці ў гміне.

У папцы знаходжу не толькі выразкі з газет, але і машынапісы мясцовага абсягу, кранаючыя кузніцкую гісторыю. Таму лічу патрэбным сілкавацца па гэтай тэме іншымі крыніцамі. *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* з канца XIX стагоддзя нясе такое агульнае сцвярджэнне: „Kuźnica, nazwa osad powstałych przy zakładach żelaznych, liczniejszych o wiele dawniej niż obecnie, ponieważ przy niskiej wartości drzewa możebną była egzystencya fabryk na małą skalę urządzonych. Stąd dziś nazwa tylko świadczy o istnieniu zakładów w miejscach nie posiadających dziś warunków pomyślnej egzystencyi tego rodzaju przemysłu”. А ўжо пра канкрэтную, „нашу” Кузніцу напісана там так: „Kuźnica, mko, pow. sokólski, nad Łosośną, gm. Kruhlany, w pięknem położeniu, o 22 w. od Grodna, o 216 od Warszawy, o 15 od Sokółki. Dawniej był tu klasztor bazylianów, założony przez możny dom Maciutów, którzy klasztorowi nadali i dobra K., rezerwując w nadaniu, że, w razie upadku klasztoru, dobra wrócą do rodziny. To nie nastąpiło, włościanom dobra K. rozdano. Na miejscu klasztoru stoi dziś cerkiew prawosławna. Drugi kościół katol. założony przez Zygmunta I w 1545, wzniesiony był z drzewa modrzewiowego. R. 1860 miejscowy proboszcz ks. Pisanko wymurował tu przy spółudziale parafian piękny kościół; parafia ma dusz 4200. Jest tu też st. dr. żel. petersb.-warsz., na przestrzeni Białystok — Wilno, miedzy Sokółką a Grodnem, o 24 w. od Grodna. Domów 191, mk. 1083 t. j. 445 katol., 438 izr., 38 prawosł. Zarząd polic. (stan) dla 4-ch gmin wiejskich i zarząd gm. kruglańskiej. Cerkiew, 3 dm. modl. Handel bardzo nieznaczny: 10 sklepów. W okolicy poławiają się pstrągi. Otrzymała K. prawo miejskie od królowej Bony 1546 r.; r. 1588 zaliczała się do dóbr stołowych królewskich. W XVIII w. była w posiadaniu Tyzenhauza. 1796-1808 koronne miasto pruskie”.

Адзін з беларускіх парталаў нясе і звестку пра згаданае раней Гродна з наступнымі вытрымкамі: „18 стагоддзе знамянальнае для Гродзенскай мытнай службы тым, што ў ІІ-й палове стагоддзя Гродна становіцца фактычна сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Тут у Новым замку знаходзіцца рэзідэнцыя Караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага, працуюць цэнтральныя дзяржаўныя органы ўлады і кіравання: Камісія Скарбовая ВКЛ, якая з'яўлялася вышэйшым кіруючым мытным органам, Асэсарскі суд, Камісія Вайсковая, Трыбунал Літоўскі. У снежні 1819 г. імператар Аляксандр І падпісвае «Мытны Статут па Еўрапейскім гандлі», згодна з якім устанаўлiваліся мытныя заставы, мытні і мытныя акругі на заходняй мяжы Расійскай імперыі. Гродзенская мытная застава была пераўтворана ў галоўную мытню Гродзенскай мытнай акругі. У склад акругі, якая стала сёмай, акрамя Гродзенскай мытні 2-га класса, уваходзілі і мытні 4-га класа: Брэсцкая, Усцілужская, Ганіонцкая, Харошчэнская, Цеханавецкая, Нурэцкая і Прэбароўская. Пасля вызвалення 16 ліпеня 1944 года горада Гродна войскамі 2-га і 3-га Беларускага франтоў лінія фронту перамясцілася на захад, і працоўныя горада прыступілі да аднаўлення прамысловасці, камунальнай гаспадаркі, наладжвання транспарту і сувязі, узвядзенню аб'ектаў сацкультбыту, жылля. Аднаўлялася дзяржаўная мяжа, ствараліся мытні і мытныя пасты, куды прыйшлі дэмабілізаваныя франтавікі — афіцэры і салдаты. Увосень 1944 года на станцыі Ласосна быў адкрыты мытны пост, штат якога складаўся з 2-х чалавек. Загадам па Народнаму камісарыяту знешняга гандлю СССР № 215 ад 27 снежня 1944 года былі адкрыты часовыя мытні ў Брэсце і Бераставіцы. 10 лютага 1945 года згодна з загадам № 20 па Народнаму камісарыяту знешняга гандлю СССР (у тыя гады Галоўнае мытнае Упраўленне ўваходзіла ў склад Народнага Камісарыята знешняга гандлю), была адкрыта часовая мытня ў горадзе Гродна”.


■ Інтэр'ер кузніцкага касцёла

А што такое мыта? Гэта ўстаноўлены здаўна грашовы збор з іншаземцаў за права гандлю прывезеным імі таварам ды таксама збор за карыстанне з наяўнай на дадзенай тэрыторыі інфраструктуры: з дарог, мастоў і г.д. Зыгмунт Глогер: „W XVII w. myto prywatne za przejechanie dróg na bagnach, mostów, grobel, zatwierdzone było zwykle po groszu od konia furmańskiego”.

Было пра Гродна і гэтую інфармацыю, асабліва пра пасляваенныя гады, трэба прыблізна экстрапаляваць і на польскі бок, на Кузніцу менавіта. Бо пра ролю Кузніцы як памежнай мясцовасці даволі квола ў выразкавых фондах гміннай бібліятэкі. У адным з паказаных мне машынапісаў чытаю, што ў час Тызенгаўза бурліва развіваліся Саколка і Крынкі, дзе паўставалі розныя мануфактуры, затое Кузніца не скарыстала прагрэсавага штуршка. З мэтай гаспадарчага ўздыму Тызенгаўз будаваў бровары, вінакурні, цагельні, тартакі, сукнавальні, млыны, асушаў балоты. Чыноўнікі былі абавязаны праводзіць супрацьпажарны догляд, а жыхары — дбаць пра агароджы, садзіць дрэвы. Быў загад рабіць платы з лазы і менш вартаснай драўніны. Кожны гаспадар мусіў штогадова пасадзіць дзве вішні і дзве яблыні. У той час у Кузніцы быў узведзены чатырохпавярховы будынак млына, у якім былі таксама сукнавальня і тартак. Чарговы шанс развіцця заглянуў у Кузніцу ў 1862 годзе, калі праз мясцовасць была пракладзена чыгуначная Варшаўска-Пецярбургская лінія. Але ў адным з паказаных мне матэрыялаў была заўвага, што пракладзеная там чыгуначная лінія „zniszczyła rozplanowanie i zabudowę zachodniej części miasta stwarzając jednocześnie próg powstrzymujący rozwój przestrzenny osady w tym kierunku”.

Далей ранейшы машынапіс сцвярджае, што першымі асаднікамі на тэрыторыі Кузніцкай гміны ў пачатку XVI стагоддзя былі падданыя рускіх і літоўскіх паноў. А ўплыў палякаў датуецца з часу праўлення каралевы Боны, калі расце тут значэнне Каталіцкага касцёла. Розныя крыніцы па-рознаму згадваюць пра ўзвядзенне першага касцёла ў Кузніцы: некаторыя падаюць 1518 год, іншыя — 1545 год. Дамінавала тут Царква, а першая згадка пра яе знойдзена пад 1556 годам, ды ёсць здагадкі пра тагачасныя цэрквы ў Воўкушы і Кусціне — магчыма прыватныя іх уладальнікаў. Калі кузніцкая царква прыняла пастановы Берасцейскай уніі — невядома, таксама невядома, калі згарэў тамашні храм усходняга абраду. У 1721 годзе на яго месцы пачалася пабудова базыльянскага кляштара, які ў наступным стагоддзі, пасля скасавання ордэна базыльянаў, быў пераведзены ў Праваслаўную царкву. У той жа больш-менш час драхлеў і будынак каталіцкага касцёла, які абваліўся ў 1816 годзе: тры гады пазней быў узведзены новы, таксама драўляны. У 1863 годзе ў Кузніцы быў змураваны новы касцёл, які тагачасныя ўлады хацелі закрыць, але такое рашэнне не было адобрана вярхамі і храм захаваўся да нашага часу.

Да ўсяго гэтага варта дадаць, што ў ходзе баёў за Кузніцу, якія прайшлі 21 і 22 ліпеня 1944 года, быў моцна пашкоджаны тамашні касцёл і зусім згарэла драўляная царква. Касцёл быў адрамантаваны, а новую царкву змуравалі ў 1947 годзе. У 1957 годзе быў запушчаны чыгуначны пагранпераход для цывільнага карыстання.

І пра „наш час”. Вось на адным з паказаных мне лісткоў падаецца спісак „цікавых асоб звязаных з гісторыяй Кузніцкай зямлі”. Ёсць там чыны з часоў Першай і Другой Рэчы Паспалітай. Але няма, для прыкладу, найбольш хіба „цікавай” асобы кузніцкага вываду, менавіта няма там згадкі пра Міхаіла Каяловіча, аднаго з найбольш вядомых русафільскіх гісторыкаў. Варта тут, здаецца мне, прывесці вытрымку з энцыклапедыі Брокхаўза і Эфрана пра хаванага цяпер у Кузніцы ўраджэнца гэтай мясцовасці: „Из речей К., произнесенных в торжественных собраниях спб. слав. благотвор. общества, особенно замечательна речь на тему: „Историческая живучесть русского народа, и ее культурные особенности” (1883). Здесь он отмечает, в числе особенностей народа любовь к земледелию, любовь и способность к промышленности и торговле, стремление к обладанию лучшими землями, уменье овладевать речными и водными путями и берегами прилегающих морей. (...) Наконец, главную характерную особенность русского народа представляет раннее сознание „необходимости государственного строения, государственной объединяющей власти”, которая и воплотилась в московском единодержавии, „с земскими соборами и с земским всенародновластным царем во главе”. В вопросах общеславянских К. стоял за возможно тесное общение между славянскими племенами, и притом не с одной только политической точки зрения: он желал объединения славянских племен под знаменем св. Кирилла и Мефодия, давших славянам единую грамоту и общий для всех племен письменный язык”. Вось гэтае расійскае імкненне *к обладанию лучшими землями, уменье овладевать речными и водными путями и берегами прилегающих морей* асабліва відочнае ў наш час; Каяловіч аказаўся беспамылковым прарокам. І далей, у Брокхаўза і Эфрана, Каяловіч сцвярджаў, што „в истории область объективных истин весьма невелика, а все остальное неизбежно субъективно, нередко даже в области простейших голых фактов...”. І вось гэтую суб'ектыўнасць аж надта выдатна відаць у паказанай мне падборцы галоўных персанажаў Кузніцкай зямлі. Чарговым доказам гэтаму — адсутнасць у ёй Язэпа Варонкі...

Важная таксама аглядка ў той бок, з якога дзьме вецер. У Каяловіча ён быў з іншага чым у наш час боку. Ды важнае, каб той вецер быў цёпленькі. Бо ж быў час, калі не надта было вядома, адкуль той вецер цяплейшы — 1950-я гады. Варта было б зафіксаваць, як гэтыя справы выглядалі ў Кузніцы, аднак пра гэта ціха. Мабыць адказ на пытанне, чаму так там ціха, даў калісь-калісь знакаміты польскі паэт Аляксандр Фрэдра: „O Lenistwo! Bóstwo moie! Dla ciebie lutnię nastroię, Lecz by twych uszów niedręczyć, Cicho struny będą brzęczyć, Cicho będą śpiewać, Ale głośno ziewać! Zapamiętałe szaleńce, Których łudzą sławy wieńce, Których dążą wszystkie chęci, By po zgonie żyć w pamięci, Jakąż korzyść ztąd odnoszą Że ich imie wieki noszą?!”

Да гэтай рэфлексіі паэта варта дакінуць і заўважаную ў Кузніцы — Каяловічам? — селектыўнасць-суб'ектыўнасць: не ўсіх імёны захоўваюцца ў даўжэйшай перспектыве, у тым ліку і Каяловіча...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# 15 гадоў «Жэмэрвы»

1 ☞ працяг папоўнілі калектыў яшчэ будучы вучнямі бельскай «тройкі». Нашы вучні выступаюць на школьных урачыстасцях, спяваючы і іграючы на музычных інструментах. Уся «Жэмэрва» ахвотна выступае таксама ў нашай школе. Я прыйшоў паглядзець выступы «Жэмэрвы», якая сёння шыкарна прэзентуецца, — заявіў дырэктар Бельскага белліцэя Андрэй Сцепанюк, у мінулым бургамістр Бельска-Падляшскага на працягу васьмі гадоў.

Юбілей удастоілі ваяводскі радны Валянцін Карыцкі, бургамістр Бельска-Падляшскага Яраслаў Бароўскі, дырэктар Бельскага дома культуры Альжбета Фіёнік і былы дырэктар БДК Сяргей Лукашук. Члены калектыву і іх мастацкі кіраўнік Анна Фіёнік атрымалі падарункі, узнагароду, многа кветак і перш за ўсё многа сардэчных, цёплых пажаданняў далейшай паспяховай дзейнасці.

Перад святкаваннем юбілею старшыня Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік арганізаваў у музейнай мяшчанскай хаце семінар «Студзіводы Сегяневічаў», прысвечаны малым айчынам. Удзельнікі семінара пазнаёміліся з гісторыяй вёскі Катлы і рукапісам кніжкі «Катлы ўчора і сёння», якая рыхтуецца да друку. Яе аўтары Ян Мінкевіч і Уладзімір Кірылюк распавядалі пра мінулае Катлоў і выхадцаў з гэтай вёскі.

— У цэнтры нашай гістарычнай дзейнасці знаходзяцца малыя айчыны, што адлюстравана ў назве музея. Я рашыўся яшчэ раз успомніць пра сусветнай вядомасці акуліста з Казані (Расія), заснавальніка расійскай школы афтальмалогіі Эміліяна Адамюка, які родам з нашых Студзіводаў, дзе жыў у дзяцінстве. Хутчэй за ўсё яго бацька быў эканомам у студзіводскім маёнтку. Эміліян вельмі добра вучыўся, атрымаў навуковую стыпендыю і паступіў у Казанскі ўніверсітэт. У 57 нумары «Бельскага гостінця» змешчаны матэрыял пра Эміліяна Адамюка і кампакт-дыск «Год у Пінскім павеце» з абрадавымі песнямі Піншчыны, — сказаў у час семінара Дарафей Фіёнік.

З новага нумара «Бельского гостінця» можна таксама даведацца, што Новаберазова, у якім я правёў дзяцінства і юнацкія гады, з 1861 года стала сядзібай воласці, якая ахоплівала Новаберазоўскі і Старакарнянскі праваслаўныя прыходы. А жыхар Новаберазова Цімафей Тарасевіч, які ў 1910-1912 гадах быў мясцовым войтам, у 1912-1917 гадах быў дэпутатам расійскага парламента — Дзяржаўнай думы.

Пасля гістарычнага семінара яго ўдзельнікі паглядзелі карціны намаляваныя ў час мастацкага пленэру ў Раманаўцы, з якой родам бацька Дарафея Фіёніка.

— Мы падчас пленэру ў Раманаўцы стараліся пераліць на палотны клімат старой забудовы вёскі і яе краявідаў з узгоркамі. Намалявалі дом, які мае знікнуць, крыжы і дзядзьку Дарафея, да якога вельмі падобны Максім Фіёнік. Дзядзька быў кавалём і быў вельмі высокі, што мы адзначылі. Я раней тут вырэзваў гістарычныя постаці, якія прэзентуюцца ў музеі, — сказаў мастак Уладзімір Чыквін з Кобрына.



■ Старшыня Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік арганізаваў семінар «Студзіводы Сегяневічаў», прысвечаны малым айчынам; злева: аўтары кніжкі «Катлы ўчора і сёння» Ян Мінкевіч і Уладзімір Кірылюк

Мастак Анатоль Туркоў з Камянца перад вясковай хатай Студзіводскага музея стварае барэльеф з выявай студзіводскай панарамы, а раней выконваў іншыя скульптуры. На гэты раз працаваў як жывапісец разам з жывапісцамі Вольгай і Ігарам Раманчукамі з Брэста. Мастакі станоўча ацанілі пабыўку ў Раманаўцы і клімат гістарычных і музычных мерапрыемстваў, арганізаваных Студзіводскім музеем.

16 верасня Музей малой айчыны суарганізаваў Свята вёскі Раманаўкі. Пачалося яно малебнам каля часоўні разам з епіскапам сямятыцкім Варсанофіем і святарамі. Пазней адкрылася выстава пленэрных карцін мастакоў з Рэспублікі Беларусь, якая дзень раней прэзентавалася ў мяшчанскай хаце Студзіводскага музея. Свята завяршылася канцэртам «Жэмэрвы» і калектываў з Беларусі і Падляшша, якія выступілі перад публікай каля сцэны.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Шмат каго ў дзяцінстве бацькі аддавалі ў музычную школу, спадзеючыся, што іх сын ці дачка авалодае нотнай граматай, праявіць музычны слых і будзе цешыць родзічаў, сяброў ці знаёмых сваімі гамамі ці вакалам. Мода на музычную адукацыю не прайшла дагэтуль і наўрад ці пройдзе, бо спевы і музыка з'яўляюцца спрадвечнымі спадарожнікамі чалавечага жыцця. Згодна з гэтымі рэаліямі разумееш тых людзей, якія праз навучанне музыкі дзяцей зрабілі бізнес. Прыкладам такой сваёй музычнай справы з'яўляецца сетка навучальных музычных устаноў пад агульнай назвай Brainin Music School. Існуе такая школа і ў Польшчы, і ў Беларусі. Прычым у беларускай краіне гэтыя музыкальныя выкладчыкі не цураюцца беларускай мовы, што з сённяшнім заганным стаўленнем да беларушчыны даволі незвычайна.

Калі цікаўны карыстальнік зазірне на сайт **http://brainin.by**, то напачатку ён мала што з яго зразумее. „Эфектыўнае музычнае навучанне з курсам тэорыі паводле В. Брайніна”, — такімі словамі сустракае яго партал. Магчыма для музычнай грамадскасці імя Валерыя Брайніна значыць вельмі многа, але для большасці насельніцтва, якая не спецыялізуецца ў музычнай тэорыі, патлумачым. Брайнін — паэт і перакладчык, эсэіст, культуролаг, музыказнаўца, музычны педагог, вынаходнік, культур-менеджар, кампазітар. Але ў выпадку навучання музыцы важна тое, што ён аўтар музыкальна-педагагічнай сістэмы „Развіццё музычнага інтэлекту ў дзяцей”. Згодна з гэтым, музычны клас у Мінску прапануе далучыцца да музычнага выхавання, якое прадугледжвае развіццё музычнага мыслення, то-бок разумення музыкі запатэнтаванымі сродкамі, якія далі і даюць добрыя вынікі як у прафесійнай, так і ў аматарскай адукацыі. Праўда, для знаёмства з самапрэзентацыяй з вышэйзаначанага сайта трэба перайсці па спецыяльнай гіперспасылцы на „галоўны” сайт мінскай школы, які па сутнасці з'яўляецца працягам-дапаўненнем першага з большай колькасцю рубрык.

„Знаёмства з музычнай культурай так ці інакш мусіць стаць часткай агульнай адукацыі дзіцяці. У нашай школы няма мэты гадаваць вундэркіндаў. Музычна даравітыя дзеці, гэтак сама, як і „звычайныя”, маюць патрэбу ў цікавым і паслядоўным навучанні — дзеля таго, каб не толькі навучыцца граць, але прышчапіць любоў да музыкі, зрабіць даступнымі для разумення нашых маленькіх суайчыннікаў найлепшыя ўзоры сусветнай класікі, стварыць аснову для ўласных творчых эксперыментаў”, — распавядаюць пра сваё прызначэнне музычныя педагогі, адзначыўшы, што яны з дапамогай філолагаў пераклалі на беларускую мову метадычныя матэрыялы. „Мы спадзяемся, што наш клас будзе опцыяй для тых, хто жадае вучыцца па-беларуску”, — кажуць яны. Адметна, што для жадаючых навучання на беларускай мове ў школе прадугледжаны зніжкі па аплаце.

„Палова выкладчыкаў ці прынцыпова беларускамоўныя, ці не маюць з беларускай праблем. Бонусы для беларускамоўных навучэнцаў, у тым ліку па аплаце”, — распавядаецца пра школу на сайце-каталогу беларускага бізнесу „Свае”.

У сваю чаргу музычныя педагогі запэўніваюць, што даюць паўнавартасную музычную адукацыю на беларускай мове.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Падзеі і асобы БНР

## 125 гадоў з дня нараджэння Паўліны Мядзёлкі

Акторка, дзеячка беларускай культуры Паўліна Мядзёлка нарадзілася 24 верасня 1893 г. у мястэчку Будслаў (цяперашні Мядзельскі раён). Яе бацька Вінцэнт Мядзёлка быў касцельным арганістам. У 1898 г. сям'я пераехала ў Глыбокае. Там Паўліна скончыла царкоўна-прыходскае вучылішча. З 1907 г. вучылася ў Рызе на вячэрніх курсах для дарослых.

З 1909 г. Мядзёлка была ў Вільні, займалася ў прыватнай жаночай гімназіі Нядзюравай і Райсмілер. Зблізілася з віленскім беларускім і сацыялістычным рухамі. Увосень 1912 г., пасля сканчэння гімназіі, накіравалася ў Пецярбург на Вышэйшыя камерцыйныя курсы, якія скончыла ў 1914 г. У 1913 г. выканала ролю Паўлінкі ў пецярбургскай прэм'еры п'есы Янкі Купалы. У час Першай сусветнай вайны была ў эвакуацыі ў расійскім Царыцыне. З восені 1916 г. у Петраградзе стала сакратаркай Беларускага камітэта дапамогі ахвярам вайны. У 1917 г. працавала ў Кіеве ў так званым Саюзе гарадоў. У кастрычніку 1917 г. па дамоўленасці з княгіняй Магдаленай Радзівіл арганізавала беларускую школу ў вёсцы Жорнаўка Ігуменскага павета. Пасля таго, як у сакавіку 1918 года школа была закрыта, перабралася ў Мінск.

Мядзёлка працавала настаўніцай, удзельнічала ў пастаноўках Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. Наведвала Вільню і Гродна. З 1918 года выступала ў друку з вершамі. З вясны 1919 г. — інспектарка беларускіх школ, кіраўнічка Грамады беларускай моладзі і драматычнага гуртка ў Гродне. 20 ліпеня 1919 г. арыштавана ўладамі Польшчы за ўдзел у выданні гарадзенскай газеты „Родны край”, дзе яна і друкавалася.

З пачатку 1920 г. жыла ў Мінску, кіравала беларускай жаночай школай. Зноў арыштавана разам з мужам Тамашам Грыбам польскімі ўладамі ў траўні 1920 г. Перад наступам Чырвонай Арміі вывезена ў Варшаву, сядзела ў турме горада Вронкі, што на Пазнаншчыне. Пасля вызвалення накіравана на жыхарства ў Лодзь з забаронай пераязджаць на „ўсходнія крэсы”. Па падробленых дакументах выехала ў Вільню, пазней у лютым 1921 г. трапіла ў Літву. У Коўне займалася выданнем агітацыйнай літаратуры заходнебеларускага вызвольнага руху. Друкавалася ў газеце „Сялянская доля”. З восені 1921 г. па прапанове Цішкі Гартнага працавала ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне.

У 1922 г. пераехала ў Латвію, выкладала ў беларускай гімназіі ў Дзвінску. У траўні 1924 г. арыштавана латышскімі ўладамі разам з іншымі выкладчыкамі. Апраўдана судом у красавіку 1925 г. У траўні разам з братам прыехала ў БССР. Працавала ў сектары мастацтва Інбелкульта. У 1927-1930 гг. выкладала беларускую мову ў Беларускай акадэміі сельскай і лясной гаспадаркі ў Горках.

Паўліну Мядзёлку арыштавалі савецкія карныя органы 18 ліпеня 1930 г. па справе „Саюза вызвалення Беларусі”. Неўзабаве яе выслалі ў Казань. З восені 1932 г. выкладала рускую мову і літаратуру ў адной з маскоўскіх школ. Летам 1947 г. пераехала ў Будслаў, дзе да 1958 г. працавала настаўніцай. У Будславе напісала свой найбольш значны твор — мемуары „Сцежкамі жыцця”, якія ў фрагментах пачалі друкавацца з 1958 г. (асобным выданнем выйшлі ў 1974 г., другая частка надрукаваная ў 1993 г.).

Памерла Паўліна Мядзёлка 13 лютага 1974 г. Пахаваная на старых каталіцкіх могілках у Будславе.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Засталіся адно ўспаміны (43)

У Дубяжыне насупраць школы, праз вуліцу, змяшчалася ГСаўская крама. Прадаўшчыцай працавала Марыся Томчук. Будынак мураваны, добра забяспечаны таварамі. Гэта быў зборны пункт аматараў піва ды віна, бо гарэлкі тут не прадавалі. Амаль штодзень на адвячорку збіралася кампанія хлопцаў, сядала побач крамы і частавалася алкагольнымі напіткамі. А ў нядзелю ці прыхадское свята сядалі на зялёную траву за крамаю. І так бяседа доўжылася да адвячорка. У нядоўгім часе я хутка з'яднаў сяброў сярод дубяжынскай кавалеркі. Перш-наперш я наладзіў сяброўскія кантакты з хлопцамі, якія пражывалі ў мяжуючых са школай дамах. Гэта былі Сяржа Яўгенін і браты Маркавы (так клікалі іх па бацьку) — Сярожа і Сцёпа. Сяргей працаваў у Беластоку на чыгунцы, кавалер. Старэйшы Сцяпан гаспадарыў на бацькаўшчыне, жанаты з Клаўдзіяй. Часта мы там спатыкаліся пры абеднім пачастунку. Да Сярожы Яўгенінага прыязджаў ягоны сваяк Міша Брэнька з Градалёў, вясковы музыкант. Часта падыгрываў ён дубяжынскім кавалерам пры выпіўцы. У Сярожы была малодшая сястра Валя, прыгожая дзяўчына. Праўду сказаўшы, ёй падобных шмат было ў Дубяжыне.

Асноўнай праблемай дубяжынскай моладзі быў брак святліцы. У вёсцы існаваў мастацкі харавы калектыў пад кіраўніцтвам Пятра Нявінскага. Цудоўна спявалі дубяжынскія дзяўчаты. Рэпетыцыі праводзілі ў мясцовай школе. Па суботах выязджалі на рэпетыцыі ў Бельск-Падляшскі. Кола маіх сяброў стала хутка павялічвацца. Да кампаніі далучыўся Федзя Ваўжэнюк, якога я пазней рэкамендаваў кіраўніку транспарту Бялевічу на шафёра нашай кінаперасоўнай брыгады, калі Скепка падаваўся ў водпуск. Чарговымі неразлучнымі калегамі сталі Сярожа Супрун, Алесь Матфееў ды Толік Дуб. Сярожа з Алесем цудоўна спявалі. Асабліва Алесь, які некалькі разоў быў лаўрэатам конкурсу «Беларуская песня». А Толік Дуб запрашаў мяне на святочны пачастунак на Ілью. Пасля сустракаліся мы з ім у Райках, калі мы заязджалі з кінаперасоўкай. Неўзабаве Толік у Рэйпічах (так у наваколлі называлі Райкі) ажаніўся.

А мне ў галаве не блукаліся думкі пакідаць кавалерскі стан. Але, як у прымаўцы гаворыцца, дзе д'ябал не зможа, туды бабу пашле. У маім выпадку падаслаў мне фактара. Аказаўся ім Алік Чарнянін, наш кінамеханік. Некалькі месяцаў раней, а было гэта ў 1967 годзе напрадвесні, калі праязджаючы праз Гайнаўку выпадкова намякнуў пра жаніцьбу, пажартаваў: «Пара скончыць бібікі біць». І тут жа прыбавіў: «Харошую дзяўчыну маю. У швейным інвалідным каапeратыве швачкай працуе». Я прапанову сябры прыняў за жарт і папрасіў кампаньёна, каб больш не вяртаўся да гэтай тэмы. Але гэты не адпусціў. Пачаў над маёю галавою сэнаваць павуцінку. І зрабіў сюрпрыз. А было гэта ў Войшках пасля заканчэння вечаровых сеансаў...

(працяг будзе)

❖**Уладзімір СІДАРУК**

# Сухія дрэвы пры дарозе — небяспека

Яны стаяць паабапал павятовай асфальтавай дарогі з Лешукоў у Старое Ляўкова ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета. Пару дзясяткаў тоўстых старых-старых таполяў пазначаны чырвонай фарбай. Ужо даўно пара іх ссячы. А так некаторыя з іх напорысты вецер зваліў на маставую вышэйзгаданай дарогі і іх сцягнулі на абочыну шашы. Так і ляжаць яны месяцамі. А зараз прыдаліся б на дровы. На двары ўсё халадней і халадней. Апал для печаў патрэбны.

З сухіх таполяў галіны падаюць дзе папала. Галлё падае і на шашу. Ехаць сюдою кожнаму падарожнаму небяспечна. Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы павінна як мага найхутчэй управіцца з засохлымі дрэвамі пры дарозе з высокай інтэнсіўнасцю руху. 17 верасня гэтага года падчас сесіі Гміннай рады ў Нараўцы гаварылі пра гэта радныя са Старога Ляўкова Ігар Бірыцкі. Ён папрасіў войта гміны накіраваць пісьмо ў гэтай справе ў Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы, што і будзе зроблена.

❖**(яц)**

# Адноўленыя вуліцы ў Нараўцы

Зараз у Нараўцы Гайнаўскага павета паклалі новую каляровую брусчатку на вуліцах Водаправоднай і Крынічнай ды на адрэзках вуліц Міцкевіча і Новай. Там, дзе зараз маставая з брусчаткі, пабудавалі новыя тратуары і ўезды на панадворкі, а насупраць Гміннага асяродка культуры — вельмі тут патрэбную даволі прасторную стаянку для аўтамабіляў.

❖Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. асобная лінія ў сістэме чыгунак, якая адыходзіць убок ад асноўнай чыгуначнай магістралі = 6 _ 7 _ 8 _ 9 _ 10 _;
2. дрэва для Вербніцы = 19 _ 20 _ 13 _ 15 _ 4 _;
3. адзінка сілы = 2 _ 23 _ 3 _ 1 _;
4. воданепранікальная камера для падводных работ = 5 _ 12 _ 21 _ 14 _ 22 _;
5. цягнецца за іголкай = 11 _ 16 _ 17 _ 18 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | | | | | | |
| | | | | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 36 нумара**

Тайга, калода, зерне, Сыс, Ніл, квант, Лутан, характар, пагалоўе, чыгун, Ніксан, Ялоўка.

Рашэнне: **Галодны страўнік не слухае павучанняў**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 30.09 — 06.10

**(22.03. — 20.04.)** Гоніш астаткам сілы; можаш трапіць у хандру або захварэць на ляноту. А, папраўдзе, прыдаўся б табе салідны адпачынак. Больш часу прысвяці асабістым справам. Не пазычай без пацверджання.

**(21.04. — 21.05.)** Зважай, бо можаш стаць залішне зайздросным! Не пераборшчвай! Добры час на выкарастанне ўявы, мастацкіх талентаў, інтуіцыі. Можа сустрэць цябе штосьці вельмі мілае.

**(22.05. — 22.06.)** Зрабіць на кімсьці ўражанне, якое яго зваліць з ног — цяпер табе як плюнуць! Затое балаган у розных справах. У фінансах не разлічвай на нябесную манну. Весткі аб залатых горах — звычайная лухта, а стратаў, якія могуць чакаць з-за лішняга даверу, ніхто табе не кампенсуе. Няпростыя задачы, рашэнне якіх запатрабуе максімальных намаганняў. Будзь цярплівы, да ўсіх праблем падыходзь без лішніх эмоцый і з халоднай галавой!

**(23.06. — 23.07.)** Знакаміты час, каб раскруціць інтарэс. Добрая фізічная і псіхічная форма ды шчопаць шчасця. Задбай аб развой сваёй кар'еры. Варта інвеставаць, разгарнуць крылы. Насі з сабой золата (лепш схаванае!) — паправіць яно табе настрой і прыняce папулярнасць сярод новых асоб.

**(24.07. — 23.08.)** Зразумееш, адкуль у цябе бяруцца праблемы. Настрой крыху меланхалічны. Не наракай на лёс, будзеш мець магчымасць зрабіць у жыцці пазітыўныя змены. Адно не бяры новых пазык! Прыйшоў час іспыт, і ён акажацца вельмі розным — як прыемным, так і не вельмі. Але, калі з'явіцца жаданне вярнуцца ў сваё мінулае, то лепшага часу табе не знойдзеш.

**(24.08. — 23.09.)** Скажы партнёру, што цябе цешыць, што нервуе. Цяпер добра дагаворыцеся аб усім. Маеш недалёка магчымасці няблага зарабіць (купі большую скарбонку!).

**(24.09. — 23.10.)** Калі адчуеш, што аж цябе разносяць энергія ці нервы, вазьміся за падлогу! Працавіты тыдзень. Калі рыхтуюцца нейкія змены, будзь асцярожным, бо можа пры гэтым дайсці да канфлікту. Карыстайся ўсімі запрашэннямі — выхад з хаты паправіць табе настрой.

**(24.10. — 22.11.)** Спакойна справішся з праблемамі, захаваеш добрыя адносіны з іншымі. Напніся, падзейнічай, кіруючыся інтуіцыяй — зможаш паправіць свой бюджэт. Зважай, каб не трапіць у абдымкі неадказнай асобы! Не папраўся — спавольніцца твой метабалізм. Каб дасягнуць поспехаў неабходна табе дзейнічаць упэўнена і дынамічна, пажадана прыцягваць да сваіх спраў і планаў новых партнёраў і памочнікаў.

**(23.11. — 22.12.)** На працы не пачынай звады, дыскусіі, зважай на інтрыгі. Не рассявай плётак! Прыцягваеш да сябе арыгінальных, прыгожых, цікавых асоб. Насі адзенне бэзавага колеру — спрыяць будзе гэта мілым адносінам атачэння.

**(23.12. — 20.01.)** Адкладзі набок калькулятар; пара паверыць інтуіцыі, прадчуванням і ўяве. Час спрыяе матэрыяльным і асабістым справам. Можа паправіцца ўзровень жыцця. Апранай адзенне малінавага колеру — дапаможа табе ў практычных дзеяннях!

**(21.01. — 19.02.)** Венера паспрыяе табе ў выбары парфумы, прычоскі, новых заслон у хаце... Будзеш прыгожы, поўны энергіі, папулярны ў асяроддзі. Ды не сустракайся з асобай ужо звязанай. Сярэдні тыдзень у фінансах, дык не плануй выдаткаў з размахам. Кастрычнік добры для дасягнення тваіх мэт, умацавання пазіцый і станоўчага рашэння заблытаных прафесійных пытанняў.

**(20.02. — 21.03.)** Запрасі на гасціну ўсіх, каго любіш; гэта прынясе табе шчасце. Калі на працы з табой не лічацца, пацікаўся новымі прапановамі. Твая жывая інтэлігентнасць і новыя ідэі адразу звернуць на цябе ўвагу; будзеш мець немалыя шанцы. Насі фіялкавы шалік ці хустку — павесялееш, людзі будуць любіць тваю кампанію. Могуць адчувацца адгалоскі цяжкасцей мінулых месяцаў. На працы і ў жыцці перамены працягнуцца, з-за чаго не выключаны фінансавыя цяжкасці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

Ідэалагічная заядласць і пагрозы камуністаў не спынілі людзей. Пасля таго як капліцу і дрэва знішчылі ў 1960 годзе, суцяшэнне прыйшло ад прыроды. Дрэўца само па сабе пусціла пасынкі і адрасло. Гэтую навіну перадавалі з вуснаў у вусны, ідэалізавалі. Цудоўнае аднаўленне дрэўца падмацавала свабодалюбівы пушчанскі народ, загонены ў калгасы. Да Грушы зноў цягнулі паломніцтвы, месца зноў пазначылі абарочнымі крыжамі. Ідэалагічныя службы спачатку ігнаравалі з'яву і з недаверам сачылі за ходам здарэнняў. Найбольш хвалявала іх напорыстасць жаночага роду, які поўнасцю ігнараваў пагрозы і штрафы. І каб не сумнявацца ў правільнасці сваіх крокаў, камуністы зноў прымянілі насілле. У 1970 годзе святое дрэва і крыжы яшчэ раз знішчылі. Месца зааралі і пасадзілі бульбу. Выкараніць звычкі і любоў да месца аднак не пашанцавала. Наадварот, той канец стаў новым, надзейным пачатакам.

Грушка... адрасла трэці раз.

Сёння ўжо немагчыма аддзяліць два жудасныя здарэнні, два жывыя патокі памяці зліліся ў адну бясспрэчную праўду. А праўда, як верыць пушчанскі народ, не патоне ў акіяне хлусні, яна заўсёды выплыве наверх.

* * *

Спачатку я абышла дрэва і прысела ў яе лагодным цяні. Святая груша здзіўляе разгалінавасцю, у якой многія паломнікі бачаць форму крыжа. Ад нізу яна вырастае ў два ствалы, з якіх адзін раздзяляецца яшчэ на дзве часткі. У народзе вераць, што кшталт дрэва паказвае ўсе тры грушы, што пасля 1970 года зрасліся ў адно дрэва.

— Частуйцеся нашымі грушкамі! — заахвоціла мяне спадарыня Вера.

Якраз саспелі дзічкі, частка іх ужо асыпалася на зямлю і зрабілася смакавітымі гнілкамі.

— *І всэ вона родыт*, — адзначыла мая праваднiца, — *всэ на голі грушкы. Шчэ нэ було, коб вона нэ родыла...*

Апошнія словы прагучалі як уступ да тэорыі пра сімвалічную ролю грушы ў славянскай міфалогіі. Гэтае дрэва спалучалі з жаночасцю і расплодам. Каб паваражыць пра замуж напярэдадні новага года, дзяўчаты закідалі на грушу абручы. Удача абазначала хуткае замужжа. Сушаныя грушы дабаўлялі да калядней куцці, каб у сям'і нараджаліся дзеці. Дрэва дапамагала таксама ў народнай медыцыне. Каб супакоіць плач немаўляці, маці заносіла дзіцятка да грушы. Яна прасіла ў дрэва, каб яно зняло іх боль і трывогу. Пры тым да грушы (а таксама да бярозы) насілі дзяўчынак, хлопцаў — да дуба.

Груша-дзічка — матыў народных сірочых песень, а адна з іх прыгадалася мне перад падарожжам на Брэстчыну. І зараз, калі я сядзела пад грушай, словы падляшскай, надта жаласнай песні, дапаўнялі пабачанае і пачутае.

Ой сама я грушка
Ой сама я ў полі
Ой нэма нэ будэ
Пожаловаті кому.
Татуленько ўмэр
Матуленька старая
Братішок на войнэ
А сэстроунька малая.
Ой прыплынь прыплынь жэ
Мой братішку з водою
Возьмі мэнэ возьмі
Сіротоньку з собою
Ой як жэ я буду
Тэбэ сіроту браті
Обіцався Пан Бог
Шчасце і долю даті.

# Грушка — святое дрэва Камянецкай зямлі (5)







Сучасныя паломнікі зрываюць лісткі з дрэва і прыкладаюць іх да ран і балячак. Бяруць у мяшэчкі зямлю. І як у царскія часы сіраты Парасکі Паўлючук пакідаюць ахвяраванні — аброк. Дзесьці да пяцідзясятых гадоў самым цэнным аброкам была воўна і ільняная кудзель. Людзі прыносілі ў якасці дароў печаны пірог і хлеб, а таксама яблыкі і грушы. На дрэва і крыжы вешалі падзячныя ручнікі. Сёння, калі навокал запанавала сельскагаспадарчая прамысловасць, крыху змяніліся віды ахвяраванняў. Воўну і палатно замянілі грошы, аднак далей ставяць абарочныя крыжы і аздабляюць іх каляровымі стужкамі і ручнікамі. Іх аднаўляюць і ўпрыгожваюць кожны год сем'і ахвяравальнікаў. Людзі прыносяць яблыкі і грушы са сваіх садоў і выкладаюць іх на прыцаркоўных лаўках.

* * *

У зваротнай дарозе ў Вярховічы ў нашай машыне запанавала маўчанне. Мне хацелася думаць пра духовую сілу мясцовых жанчын, якія пад грушкай заснавалі сваю царкву пад адкрытым небам. У гады ліхалецця месца явілася духоўным, незнішчальным парасонам. Па сённяшні дзень дрэва ахінаюць іконы ў народным стылі, з распісаным цудам яўлення. Прадстаўленая на іконах гісторыя расчульвае лаской і дабрынёй. Народны культ са старажытнымі каранямі і вясковай эстэтыкай стаў агульнанароднай святыняй. Да яе прыязджаюць жыхары Брэста, Пінска, турысты з Расіі.

— *Вы наверно любіце белорускій язык*, — ні з пушчы ні з поля прамовіў спадар сакратар, які ўвасабіўся ў ролю шафёра.

Пачуць такое пытанне ў Беларусі — дзіва, ад якога займае мову.

Яшчэ ў міжваенныя гады, калі Брэстчына явілася супольнай айчынай, жанчыны з-пад Гайнаўкі ці Чаромхі паломнічалі да Грушкі як да роднай святыні. Яны, як жыхаркі Бушміч, Вярховіч, Занавінаў ці Капылоў, ішлі па суцяшэнне. Верагодна, ад іх паломніцтваў аздаравела многа дзяцей, нашчадкі якіх зараз пражываюць у Гайнаўцы, Бельску ці Беластоку.

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

У рэпартажы скарыстаны крыніцы:
В. В. Шэйбак, *Асаблівасці фарміравання культурных аб'ектаў і звязаных з імі ўяўленняў на прыкладзе лакальнай традыцыі ўшанавання Грушкі ў Камянецкім раёне Брэсцкай вобласці.*
Государственный архив Брэстской области, ф. 1482, оп. 2, д. 14, ст. 81-88.
*Праваслаўныя храмы Камянеччыны*, РИА «Вечерний Брэст», 2012.
**Рэпартаж узнік дзякуючы творчай стыпендыі Маршалка Падляшскага ваяводства за 2018 год.**

ISSN 0546-1960